# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

№ 8 (10) Верасень 1994 September Год выд. 2


# ЗЬНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА БЕЛАРУСІ БУДУЕЦЦА НА ПАДСТАВАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ІНТАРЭСУ І НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БЯСЬПЕКІ

"ЗВЯЗДА"

## Выступленьне Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь М. ГРЫБА на нарадзе кіраўнікоў дыпляматычных і консульскіх установаў Беларусі за мяжой

### МІЖНАРОДНЫЯ АДНОСІНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ: ЗЫХОДНЫЯ ПАЗІЦЫІ, ЗДАБЫТКІ, ПРАБЛЕМЫ

Паважаны Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь!

Паважаны Прэм'ер-міністр!

Паважаныя арганізатары міжнароднай дзейнасці Рэспублікі Беларусь!

Шаноўныя прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь за мяжой!

Дарагія надзвычайныя і паўнамоцныя паслы! Шаноўныя прысутныя!

Шчыра вітаючы вас, я ўсё ж з вашага дазволу не буду затрымлівацца на лірыка-палітычнай ноце. Жыццё зараз надта складанае і суровае. Да таго ж у нас адбыліся пэўныя палітычныя змены. Таму, як кажуць вайскоўцы, самы час зверыць гадзіннікі – палітычныя гадзіннікі, найперш за ўсё.

*1. ЗЫХОДНЫЯ ПАЗІЦЫІ*

Якія сёння нашы зыходныя палітыка-эканамічныя і палітыка-прававыя пазіцыі? Кім і чым яны вызначаюцца? Ці не змянілася тут што-небудзь з усталяваннем на Беларусі інстытута прэзідэнцтва? Адкажу проста: калі мы сапраўды хочам мець дэмакратычную і прававую дзяржаву, яны не вызначаюцца кімсьці асабіста. Таму нічога з прынцыповых пазіцый на Беларусі не змянілася і не павінна змяніцца. Гэтыя пазіцыі вызначаюцца толькі адзінаю з'явай, адзіным дакументам -- КАНСТЫТУЦЫЯЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

Схематычна напомню, якія яны, гэтыя зыходныя пазіцыі.

Па-першае, гэта неад`емнае права Беларусі, яе народа на самавызначэнне, развіццё сваёй уласнай дзяржаўнасці, забеспячэнне правоў і свабод кожнага грамадзяніна, усталяванне грамадзянскай згоды.

Гэтыя пазіцыі ў сваю чаргу будуюцца на канстытуцыйных прынцыпах: чалавек -- найвышэйшая каштоўнасць грамадства і дзяржавы, дэмакратыя ў краіне -- плюралістычная, асноўныя галіны ўлады ў межах сваіх паўнамоцтваў -- самастойныя, нормы міжнароднага права ў рэспубліцы -- прыярытэтныя, усе формы ўласнасці -- раўнапраўныя, адносіны ўсіх супольнасцей, рэлігій, веравызнанняў будуюцца на падставе роўнасці перад законам, дзяржаўнай моваю з'яўляецца беларуская мова пры няўхільным забеспячэнні права кожнага карыстацца рускай альбо іншай мовай.

Вярхоўны Савет -- вышэйшы прадстаўнічы і адзіны заканадаўчы орган дзяржавы.

І нарэшце: «Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права». Гэта -- поўная цытата артыкула 18 нашай Канстытуцыі.

Вось яны -- зыходныя палітыка-эканамічныя і палітыка-прававыя пазіцыі і прынцыпы нашай унутранай і знешняй палітыкі. Зразумела, галоўным іх стрыжнем з'яўляецца ідэя ДЗЯРЖАЎНАСЦІ, суверэнітэт і незалежнасць Беларусі, ідэя годнасці, правоў і свабод кожнага чалавека, грамадзяніна краіны.

Менавіта на вышэйпададзеных пазіцыях і прынцыпах будуюцца НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНТАРЭС і НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БЯСПЕКА Беларусі, якія з'яўляюцца вуглавымі падставамі развіцця і трываласці сур'ёзнай міжнароднай палітыкі любой цывілізаванай дзяржавы.

Зыходзячы з Канстытуцыі, ідэй нацыянальнага інтарэсу і нацыянальнай бяспекі, мы будзем усімі дазволенымі сродкамі імкнуцца да таго, каб шматсацыяльнасць, ці сацыяльная плюралістычнасць, нашага грамадства, вынікаючы са шматукладнасці эканомікі, вяла нас і далей не да сацыяльна-класавай напружанасці, а толькі да сацыяльнай і палітычнай згоды, каб роўнасць і свабода ўсіх формаў уласнасці паміж сабой і перад законам не засталіся толькі канстытуцыйнай дэкларацыяй, каб годнасць, свабода і правы чалавека не ператварыліся ў чарговы прываблівы, але пусты лозунг.

Сацыяльны характар рынкавых рэформаў -- гэта мы неаднаразова падкрэслівалі -- не павінен абцяжарваць іх, а, робячы рынак цывілізаваным, адначасова рабіць яго станаўленне больш хуткім. Менавіта гэта настойліва раіў нам нядаўна распарадчы дырэктар МВФ пан Мішэль Камдэсю.

Жыццёва патрэбны эканамічны саюз з Расіяй не можа быць звязаны з ліквідацыяй канстытуцыйных паўнамоцтваў Нацыянальнага банка Беларусі, не павінен тым самым ствараць магчымасці для ператварэння Беларусі ў паўночна-заходні край вялікай Расіі.

Барацьба пэўных колаў грамадства за правы рускай мовы ў краіне не павінна прывесці да фактычнай страты таго здабытку, аб якім марылі лепшыя людзі Айчыны некалькі стагоддзяў запар, -- дзяржаўнасці беларускай мовы. Да якой, дарэчы, нягледзячы на канстытуцыйны статус, фактычна яшчэ так далёка...

Надышоў час, калі барацьба са злачыннасцю і яе родным дзіцем -- карупцыяй павінны нарэшце ператварыцца ў канкрэтныя справы на законнай падставе.

Неабходна, каб інфляцыя як жахлівая эканамічная катэгорыя была зведзена да памяркоўнага ўзроўню і каб да яе не дадалася на Беларусі не менш жахлівая інфляцыя ўлады.

Мы спадзяёмся, што выбары першага Прэзідэнта нашай дзяржавы па ўсіх накірунках існуючых праблем і сумненняў прынясуць беларускаму народу яснасць, а галоўнае -- станоўчыя вынікі.

*II. ЗДАБЫТКІ І НЯВЫРАШАНЫЯ ЗАДАЧЫ*

Першым сур'ёзным крокам Вярхоўнага Савета ў напрамку да станаўлення беларускай дзяржаўнасці і фарміравання свайго незалежнага знешнепалітычнага курсу стала Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, прынятая 27 ліпеня 1990 года.

Яна замацавала рэалізацыю беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, абвясціла незалежнасць рэспублікі ў галіне міжнародных адносін, імкненне стаць бяз'ядзернай зонай і нейтральнай дзяржавай, зацвердзіла, што Беларусь самастойна ажыццяўляе права на саюз з іншымі дзяржавамі і выхад з іх.

Будзе справядлівым, калі мы ўсе ж адзначым, што за чатыры гады набылі нямала станоўчага. Рэспубліка Беларусь як самастойная незалежная дзяржава сёння прызнана 123 дзяржавамі свету, з 97 мы ўсталявалі дыпламатычныя адносіны. Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікаваў дагаворы, якія маюць адносіны да стратэгічнага ядзернага і звычайнага раззбраення.

Беларусь з'яўляецца паўнапраўным членам больш 20 міжнародных арганізацый. Болей чым у дзесяці мае статус наглядальніка. Мы няблага супрацоўнічаем з Міжнародным валютным фондам і Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця, нарошчваем актыўнасць у рамках СНД. На парадку дня -- вырашэнне праблем нашага ўваходжання ў Еўрапейскі Саюз, Савет Еўропы, у «Партнёрства дзеля міру» ды шмат іншага. Дыпламатычнае прадстаўніцтва Беларусі ў свеце было б, зразумела, больш значным, калі б нас не стрымлівалі нашы даволі сціплыя матэрыяльныя магчымасці і абыякавыя адносіны некаторых былых кіраўнікоў рэспублікі да гэтай вельмі важнай праблемы.

Мы сёння маем права залічыць у актыў міжнароднай дзейнасці Беларусі і тое, што ў нас налічваецца 1438 сумесных прадпрыемстваў і 419 чыста замежных з 66 краін свету, што па стану на 1 мая бягучага года рэспубліка мае замежных крэдытаў на 1 млрд. 49,5 млн. долараў ЗША, што з шэрагам развітых краін свету ў нас ёсць дамова аб абароне інвестыцый і аб устараненні двайнога падаткаабкладання.

Выдатна развіваюцца ў нас эканамічныя адносіны з Германіяй. Гэта краіна па аб'ёму тавараабароту з Беларуссю займае першае месца сярод краін далёкага замежжа.

Важнейшым дасягненнем у развіцці гандлёва-эканамічных адносінаў Рэспублікі Беларусь з'яўляецца прадастаўленне ёй Злучанымі Штатамі рэжыму найбольшага спрыяння ў гандлі.

Але разам з тым мы сёння маем, на жаль, права быць незадаволенымі мерай актыўнасці нашых прадстаўніцтваў за мяжой. Складваецца моцнае ўражанне, што вельмі часта яны выступаюць не ў ролі суб'ектаў развіцця новых палітычных і эканамічных сувязей з замежнымі краінамі, а толькі механічных рэгістратараў таго, што адбываецца па-за іх дзейнасцю. Можа, і таму безліч праблем апанавала сёння Беларусь. Так, выконваючы дагаворы аб памянёным вышэй ядзерным і звычайным раззбраенні, мы нясём велізарныя матэрыяльныя страты. А нашы паслы не вельмі варушацца, каб больш актыўна ўцягнуць у гэтую справу краіны Еўропы.

Мы сёння не можам быць у поўнай меры задаволенымі колькасцю замежных прадпрыемстваў і прамых замежных інвестыцый на Беларусі. А асабліва тым, што ў большасці сваёй яны займаюцца экспартам з Беларусі прадуктаў харчавання і сыравіны.

Мы губляем рынкі збыту ў Расіі і іншых краінах СНД.

З сямі заключаных пагадненняў аб узаемнай абароне інвестыцый дзейнічаюць толькі два /Германія, Швейцарыя/.

Вельмі марудна прасоўваецца працэс заключэння дамовы з ЕС.

Для нас закрытыя нацыянальныя прэферэнцыі ў гандлі развітых краін свету.

Мы літаральна абкладзены антыдэмпінгавымі квотамі на тэкстыль і калійныя солі.

Мы дагэтуль з'яўляемся толькі назіральнікамі Генеральнай дамовы па гандлю і тарыфах.

Шэраг краін бедна прадстаўлены сёння / напрыклад, Францыя/ у справах эканамічнага рэфарміравання Беларусі, а іншыя /як Ізраіль/ зусім не прадстаўлены.

Недапушчальна марудна рухаюцца ў прынцыпе ўзгодненыя сумесныя праекты са Швейцарыяй і сусветным Канцэрнам АББ. Мы вельмі дрэнна асвойваем азіяцкі рэгіён. Фактычна апынуўшыся ў стане слабаразвітой краіны, мы па-ранейшаму плацім у міжнародных арганізацыях узносы нараўне з краінамі высокаразвітымі. Праўда, Камітэт па ўзносах ААН мае намер скараціць іх удвая на працягу трох гадоў.

Нягледзячы на велізарныя намаганні і страты, Беларусь не ўвайшла ўсё ж у Савет Бяспекі.

У міжнародных арганізацыях слаба замяшчаюцца нашы кадравыя квоты.

Нарэшце, па-ранейшаму нездавальняюча пастаўлена ў краінах і міжнародных арганізацыях інфармацыя пра Беларусь, а ў нас на Бацькаўшчыне -- інфармацыя аб здабытках і інтарэсах у эканоміцы і палітыцы тых краін, дзе працуюць нашы паважаныя паслы.

Зараз нам як хлеб, як паветра патрэбна інфармацыя аб рынкавай гаспадарцы, банкаўскай справе, інвестыцыйнай дзейнасці, свабодных эканамічных зонах, эканамічнай каньюнктуры і, зразумела, палітычнай сітуацыі ў краінах.

На жаль, праблем і пытанняў болей, чым здавальняючых рашэнняў і адказаў.

Зразумела, не ўсё залежыць ад паслоў, ад адпаведных міністэрстваў. Але ад іх залежыць адно: быць гранічна актыўнымі ў рабоце па ажыццяўленню галоўнага элемента нацыянальнага інтарэсу рэспублікі -- эканамічнага рэфарміравання і выйсця з татальнага крызісу. Гэтага мы пакуль што не заўважаем.

*III. ПРАБЛЕМЫ СТРАТЭГІІ І ЗАКАНАДАЎЧАГА ЗАБЕСПЯЧЭННЯ*

Самым істотным у храналогіі нашых здабыткаў з'яўляецца, безумоўна, прыняцце Канстытуцыі, якая вызначыла асноўныя прынцыпы знешнепалітычнай дзейнасці нашай дзяржавы,прававыя падставы механізма яе ажыццяўлення. Можна з упэўненасцю лічыць, што менавіта з прыняццем Канстытуцыі завяршыўся ў нас першы этап развіцця міжнароднай палітыкі і дыпламатыі Рэспублікі Беларусь -- этап пошукаў, проб і, зразумела, памылак ды промахаў.

Зараз неабходна распачынаць этап высокапрафесійнай і гранічна актыўнай міжнароднай работы на карысць і ў імя беларускага народа.

Зразумела, артыкул 18 Канстытуцыі вызначыў не толькі асноўныя прынцыпы міжнароднай палітыкі нашай дзяржавы, асноўныя элементы механізма яе ажыццяўлення, але і асноўныя блокі самой стратэгіі гэтай дзейнасці.

Але, каб па гэтым шляху ісці не навобмацак, аднаго канстытуцыйнага артыкула надта мала.

Патрэбна мець навукова абгрунтаваную, я сказаў бы, абмеркаваную і зацверджаную Вярхоўным Саветам, іншымі вышэйшымі дзяржаўнымі органамі «пісаную» стратэгічную канцэпцыю міжнароднай дзейнасці Рэспублікі Беларусь.

Размова аб яе неабходнасці вялася ўжо не раз. Але такой пісанай, абмеркаванай і зацверджанай стратэгічнай канцэпцыі дагэтуль няма. І гэта вельмі цяжка зразумець, асабліва маючы на ўвазе, што Беларусь валодае выдатнымі кадрамі вопытных дыпламатаў і парламентарыяў, выдатным навуковым патэнцыялам.

(Заканчэньне на 2-ой стар.)

---

**З НАГОДЫ**

## Мікола СТАТКЕВІЧ: «СПАДЗЯЮСЯ, ШТО СУВЕРЭНІТЭТ БЕЛАРУСІ ЗАСТАНЕЦЦА НЕПАРУШНЫМ»

***На пытанні «з нагоды» змены палітычнай улады адказвае старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалай СТАТКЕВІЧ.***

**-- Прыход А. Лукашэнкі стаў для многіх людзей, што называюць сябе дэмакратамі, шокам. Час з дня абрання прэзідэнта прыспешыў расстаноўку акцэнтаў!**

— Як мы і чакалі, палітыка прэзідэнта накіравана на захаванне самастойнасці. І, мне здаецца, што і паездка ў Маскву, і намаганні па рэфарміраванню эканомікі нашай краіны сведчаць, што мы не памыляемся. Павышэнне цэн і дэнамінацыю беларускага разліковага білета мы схільныя разглядаць як папярэднія этапы ўвядзення сваёй валюты. Нас цешыць і тое, што ў Маскве не быў падпісаны дагавор, які супярэчыць канстытуцыйным нормам Беларусі.

**-- Ідэя санітарнага перашыйка ў выглядзе Балта-Чарнаморскага саюза выказвалася даўно. Ці не сведчаць апошнія перамовы з Літвой, Украінай, Малдовай, ЗША і інш. аб намеры рэанімаваць гэтую ідэю!**

— У эканамічным плане гэты саюз нічога істотнага Беларусі не нясе. А вось выклікаць абвастрэнне адносінаў з Масквой можа. Мы не можам не ўлічваць, што Расія была і ёсць асноўны партнёр Беларусі. Аб стварэнні Балта-Чарнаморскага саюза можна весці гаворку тады, калі ў Расіі да ўлады прыйдуць агрэсіўна настроеныя да нашай суверэннай дзяржавы лідэры.

**-- Як вы расцэньваеце прапанову дэлегацыі ЗША, што наведала Беларусь, далучыцца да НАТАўскай праграмы «Партнёрства дзеля міру»!**

— Далучэнне да праграмы НАТО не з'яўляецца далучэннем да блока краін НАТО. Таму гэтую праграму мы падтрымліваем. Яна не выклікае пагрозы ўцягвання Беларусі ў ваенныя канфлікты.

**-- А падпісаны, але не ратыфікаваны дагавор аб калектыўнай бяспецы!**

— Мяркую, што новае кіраўніцтва рэспублікі не будзе фарсіраваць яго ратыфікацыю, бо іх рукі звязаны грамадскай думкай. Усім зразумела, што, не маючы геапалітычных інтарэсаў, удзельнічаць у ваенных канфліктах для Беларусі, па-першае, бессэнсоўна (добра памятаем Афганістан), а па-другое, удзел у канфліктах будзе азначаць парушэнне ваеннай дактрыны Беларусі як нейтральнай дзяржавы.

**-- Ва ўмовах заклікаў да кансалідацыі ўсіх сіл грамадства стварэнне руху, які б падтрымліваў Лукашэнку на маючых адбыцца выбарах, вы лічаце апраўданым!**

— Так, безумоўна. Тым больш, што кантынгент прыхільнікаў у Лукашэнкі вялікі — нізавыя органы такой партыі хутчэй за ўсё пойдуць з-за асабістых сімпатый, а хтосьці — з-за жадання ўлады. Але выбары засведчылі, што палітычная актыўнасць тых 23 тысяч,

(Працяг на 9-ай стар.)

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст
1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546
USA.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor -- Nikolas Prusky
Выдавец і рэдактар -- М. Прускі

Артыкулы і дапісы могуць выяўляць пагляды, зь якімі рэдакцыя не згаджаецца.

(Заканчэньне.
Пачатак на 1-ай стар.)

Паколькі, згодна з Канстытуцыяй, Вярхоўны Савет «вызначае асноўныя напрамкі ўнутранай і знешняй палітыкі» (арт. 83, п.9), за гэты стан рэчаў мы бяром адказнасць у першую чаргу на сябе. Як я мяркую, галоўнымі сутнаснымі рухавікамі такой канцэпцыі павінны быць нацыянальны інтарэс і нацыянальная бяспека. Асноўнымі зместавымі элементамі -- палітычная, эканамічная і гуманітарная дыпламатыя ў іх цеснай узаемасувязі. Канешне, у сённяшніх абставінах эканамічная дыпламатыя, зразумела, павінна быць прыярытэтам нумар адзін. Але калі некаторыя маладыя палітолагі жорстка крытыкуюць МЗС рэспублікі за намаганні по пошуку нацыянальнай рэлігіі беларусаў -- Крыжа Ефрасінні Полацкай, -- лічу такую крытыку некалькі абмежаванай і аднабокай. Разумны прагматызм -- галоўны характар такой канцэпцыі. Унутраныя патрэбы, а не ідэалагічныя штампы павінны сёння вызначаць галоўныя накірункі і вектары пошукаў дапамогі і сяброў для Беларусі. Такі падыход добра дае зразумець, што для нас разумней за ўсё шукаць партнёраў і сяброў па ўсіх без выключэння накірунках, па ўсіх вектарах: і ў Расіі, і ў ЗША, і ў Польшчы, і ў Германіі і г.д., аддаючы перавагу не па меркаваннях кроўнай роднасці, а па памерах і шчырасці дапамогі.

Зразумела, што менавіта Расія, іншыя краіны СНД, зыходзячы з гэтых крытэрыяў, маюць пакуль што ў нашых эканамічных сувязях статус першага прыярытэту.

Вышэйпамянёная стратэгічная канцэпцыя міжнароднай дзейнасці нашай дзяржавы павінна ўключаць у сябе добра распрацаваны, дасканалы механізм гэтай дзейнасці. З аднаго боку, ён павінен прадугледзець дзейсны кансенсус у распрацоўцы міжнароднай стратэгіі ўсіх галін дзяржаўнай улады, з другога - дакладную дыферэнцыяцыю іх адказнасцей: і Вярхоўны Савет, і Прэзідэнт, і Кабінет Міністраў -- кожная інстанцыя павінна мець свой строга вызначаны клопат у гэтай агульнай справе.

Пералік паўнамоцтваў і абавязкаў Вярхоўнага Савета і Прэзідэнта Беларусі, закладзены ў новай Канстытуцыі, паказвае неабходнасць і пажаданасць для дзяржавы шчыльнага супрацоўніцтва Вярхоўнага Савета, Прэзідэнта і яго апарату ў галіне вызначэння і рэалізацыі знешнепалітычнага курсу дзяржавы. Сапраўды, хаця асноўныя напрамкі знешняй палітыкі вызначае Вярхоўны Савет, а Прэзідэнт яе рэалізуе, мяркую, што напрацаваць Канцэпцыю знешнепалітычнай дзейнасці Беларусі мы павінны разам.

Да таго ж, час, відаць, нам разабрацца з нашымі міністэрствамі, са структурай і зместам работы кожнага з іх.

Адзіную стратэгічную канцэпцыю міжнароднай дзейнасці, адзіны дакладны механізм яе ажыццяўлення варта б, на мой погляд, замацаваць заканадаўча.

Вярхоўным Саветам і Урадам рэспублікі зараз прынята 18 нарматыўных актаў, якія рэгулююць справы замежных інвестыцый у эканоміку Беларусі. Пачынаючы з 1991 года Вярхоўным Саветам і Саветам Міністраў было прынята больш за 300 розных рашэнняў па пытаннях знешнепалітычных і знешнеэканамічных сувязей рэспублікі.

Зараз у камісіях Вярхоўнага Савета разглядаюцца прапановы па вызваленню замежных інвестараў ад мытных пошлін, аб перагля́дзе пытанняў па кватаванню і ліцэнзаванню тавараў, што вырабляюцца на прадпрыемствах замежных інвестараў, ды шмат іншага.

Кабінет Міністраў, Камісія Вярхоўнага Савета па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях павінны ў бліжэйшы час прадставіць на разгляд дэпутатаў праекты Палажэнняў «Аб дыпламатычных прадстаўніцтвах і консульскіх установах замежных дзяржаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», «Аб дыпламатычных і консульскіх прадстаўніцтвах Рэспублікі Беларусь і парадку іх адкрыцця за мяжой», «Консульскі статут Рэспублікі Беларусь». Зразумела, што будуць мець месца і іншыя канкрэтныя акты і законы ў гэтай галіне.

Усё гэта будзе спрыяць рэалізацыі міжнароднай стратэгіі Беларусі і адпрацоўцы памянёнага вышэй механізма. Тым не менш паўстае пытанне: а ці не наспеў час падумаць аб пераходзе ад заляжалага праекта да прыняцця, у рэшце рэшт, адзінага закона «Аб асноўных напрамках знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь», які б замацаваў асноўныя палажэнні і стратэгічнай канцэпцыі міжнароднай дзейнасці Беларусі, і адзінага механізма яе ажыццяўлення?

Мяркую, што было б вельмі добра вырашыць праблему адзінай стратэгічнай канцэпцыі міжнароднай дзейнасці і праблему адзінага закона, які б рэгуляваў гэту дзейнасць, ужо на вераснёўскай сесіі парламента.

Дзякуй за ўвагу.

# «МЫ БУДЗЕМ ЛАВІЦЬ РЫБУ САМІ -- ДАЙЦЕ НАМ ВУДУ»

**-- такой фразай завяршыў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслаў Грыб перагаворы з дэлегацыяй дзяржэдэпартамента і міністэрства абароны ЗША. Джэймс Колінз, спецыяльны саветнік дзяржэдэпартамента па новых незалежных краінах, падтрымаў М. Грыба.** *"Звязда"*

12 жніўня прадстаўнічая амерыканская дэлегацыя правяла перагаворы з Прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам, прэм'ер-міністрам М. Чыгіром, членамі яго кабінета, а таксама са Старшынёй Вярхоўнага Савета М. Грыбам.

Паводле паведамлення Белінфарма, гутарка Прэзідэнта Беларусі з прадстаўнікамі ЗША выйшла за рамкі прадугледжанага пратакола. Пасля яе заканчэння Аляксандр Лукашэнка праліў святло на асобныя аспекты гэтых перагавораў, паколькі прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі на яе дапушчаны не былі.

-- Думаю, што ў нас адбылася нармальная размова, -- паведаміў кіраўнік беларускай дзяржавы. - Мы зразумелі пазіцыю адзін аднаго, дагаварыліся аб тым, што ў бліжэйшы час адбудзецца сустрэча паміж прэзідэнтамі. Ад імя беларускага боку была выказана падзяка Злучаным Штатам Амерыкі за тое, што яны разумеюць нашу сітуацыю і аказваюць падтрымку. Перш за ўсё гэта датычыць кампенсацыі за высокаабагачаны ўран з тых боеприпасаў, якія мы вывозім з тэрыторыі рэспублікі. З боку амерыканскай дэлегацыі была таксама паабяцана падтрымка ў Міжнародным валютным фондзе, прычым не толькі па крэдытах.

Амерыканскі бок больш за ўсё цікавілі дзве праблемы: эканамічныя рэформы ў Беларусі і ход яе раззбраення. Адміністрацыя ЗША атрымала інфармацыю аб пераўтварэннях у Беларусі, акрамя таго, з нашага боку ў Вашынгтон пайшлі запыты аб падтрымцы ў цяжкі пераходны перыяд, у тым ліку -- падтрымцы прадпрыемстваў харчавання. Як паведаміў Джэймс Колінз, адказ з боку ЗША на гэтыя запыты чакаецца прыкладна ў канцы жніўня, цяпер праграма падтрымкі Беларусі знаходзіцца на стадыі разгляду ў Белым доме.

«Мы разумеем эканамічныя цяжкасці Беларусі, і мы бачым яе рух у бок пераўтварэнняў, і мы падтрымліваем гэта» -- заявіў Д. Колінз. Ён выказаў задавальненне ад гутарак з прэзідэнтам Лукашэнкам і членамі ўрада. Д. Колінз ацаніў як канструктыўнае ранейшае супрацоўніцтва ЗША і Беларусі, якое заклала добры фундамент для далейшай работы. ЗША будуць працаваць з сусветнай супольнасцю з тым, каб падтрымаць праграму рэформаў у Беларусі. «У мінулым мы падтрымлівалі пераход Беларусі да сур'ёзных эканамічных рэформаў у асноўным у рамках гуманітарнай дапамогі, якая склала 100 мільёнаў долараў і, разумеючы, што патрэба ў ёй застаецца, маем намер дапамагаць яшчэ. Наша дапамога будзе накіравана на развіццё рыначнай эканомікі, двухбаковага гандлю і інвестыцый. Мы чакаем цеснага супрацоўніцтва з вашым кіраўніцтвам», -- заявіў Д. Колінз.

Намеснік міністра абароны ЗША Эштан Картэр спыніўся падчас перагавораў на праграмах ваеннага супрацоўніцтва ЗША і Беларусі і паведаміў, што 12 жніўня падпісаны дагавор аб выдаткаванні Беларусі на скарачэнне звычайных узбраенняў 5 мільёнаў долараў і што ў праграме сумесных заняткаў група беларускіх дэсантнікаў хутка паедзе на адну з вайсковых баз ЗША да амерыканскіх дэсантнікаў. Э. Картэр выказаў зацікаўленасць у далучэнні Беларусі да шматбаковага ваеннага супрацоўніцтва ў рамках праграмы НАТО «Партнёрства дзеля міру», прычым заззначыў, што амерыканскі бок гатовы разгледзець праблему скарачэння беларускіх расходаў па гэтай праграме -- такім чынам, знікае, відавочна, апошняя перашкода для ўключэння Беларусі ў гэтую праграму.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

**Алег ЯКАВЕЦ:** "Зьвязда"

# «ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА БЕЛАРУСІ БУДЗЕ БОЛЬШ ПРАФЕСІЙНАЙ»

**Свае меркаванні «з нагоды» прызначэння Уладзіміра Сянько міністрам замежных спраў Беларусі выказвае консул пасольства Беларусі ў Лондане Алег Якавец**

**— Аб ступені значнасці чалавека на пасадзе звычайна мяркуюць па тым, як з ім развітваюцца...**

— Сапраўды, развітвацца з добрым чалавекам заўсёды цяжка, тым больш калі гэты чалавек прафесіянал з вялікай літары. Але цешу сябе тым, што ёсць добры знак для Беларусі ў тым, што праз два месяцы пасля таго, як Уладзімір Сянько сустрэўся з каралевай Злучанага Каралеўства, яго зацвердзілі на пасаду міністра замежных спраў Беларусі.

**— Па такіх прыемных водгуках можна меркаваць, што змены ў знешняй палітыцы Беларусі ўсё ж будуць!..**

— У бок прафесіяналізму. Сянько належыць да той невялікай кагорты прафесіяналаў, якія мусілі ўвабраць у сябе ўсе лепшыя здабыткі дыпламатыі як сусветнай, так і былога СССР. Узгадаем Грамыку — гэта чалавек, якога цанілі перш за ўсё за яго прафесійныя якасці, а таму ён мусіў «пераседзець» не адну змену кіраўнікоў СССР. Уладзімір Сянько — яго вучань як у прамым, так і ў пераносным сэнсе.

**— Адной з асноўных заваёў беларускага прадстаўніцтва ў Лондане прынята лічыць наладжаныя добрыя адносіны з беларускай дыяспарай у Вялікабрытаніі. Ці не пагоршацца гэтыя сувязі з ад'ездам У. Сянько, і хто можа заняць яго месца?**

— На пасадзе пасла Беларусі У. Сянько здолеў стварыць не толькі добры імідж Беларусі, але і наладзіць добрыя сувязі з беларускай дыяспарай. Напэўна, мала хто ведае, што цяперашні будынак, у якім месцяцца беларускае прадстаўніцтва, мы набылі пры дапамозе Янкі Дамініка — выхадца з Беларусі, які зараз жыве ў Вялікабрытаніі. Дарэчы, выхадцаў з Беларусі тут шмат — гэта людзі, якіх воляй лёсу раскідала па свеце. Нехта з іх трапіў сюды, і мы бачым, як яны шчыра імкнуцца дапамагчы сваёй Бацькаўшчыне. Штогод праходзяць з'езды Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі (ЗБВБ). Тут дзейнічае беларуская ўправа, з 1946 г. — беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны. Дарэчы, зараз у Англіі знаходзіцца тэлевізійная група з Беларусі па запрашэнню дыяспары, якая павінна расказаць беларускім гледачам усё, аб чым я вам казаў, больш падрабязна. Думаю, што з ад'ездам сп. Сянько нашы адносіны не парушацца, хто б ні заняў пасаду пасла. Аб тым, хто гэта будзе, мы і самі дакладна не ведаем.

**— Але ж апроч культурных сувязей эканамічнае становішча Беларусі вымушае нас шукаць партнёраў у дзелавой сферы!**

— Зараз англійскаму бізнесмену значна прасцей трапіць на Беларусь. Дасягненнем мы можам назваць стварэнне сумеснага прадпрыемства «БЕЛСЕЛ», якое ўжо вядома на Беларусі. Зараз прапрацоўваюцца варыянты адкрыцця ў нас прадстаўніцтва кампаніі «Філіпс». Карацей, праца ў гэтым напрамку вядзецца, і будзем спадзявацца, што беларусы яе ў хуткім часе заўважаць.

**Рубрыку вядзе Юрась КАРМАНАЎ.**

# НАРАДА ДЫПЛАМАТАЎ

11 жніўня ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі пачала работу штогадовая нарада кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў, акрэдытаваных за мяжой. На яе адкрыцці перад беларускімі пасламі выступіў Прэзідэнт Рэспублікі. Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу прысутных на неабходнасць стварэння дыпламатычным корпусам спрыяльных знешнепалітычных умоў для развіцця беларускай эканомікі.

Перад удзельнікамі пасяджэння выступілі Старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Уладзімір Сянько, міністр унутраных спраў Юрый Захаранка і старшыня Камітэта дзяржбяспекі Уладзімір Ягораў. Прадугледжваецца, што нарада кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў завершыць работу ў суботу.

**Белінфарм.**

***Марыя РОКАЧ***
*(вёска Ярэмічы, Карэліцкі раён):*

❖

***Раз дзяржава — трэба мець***
***Свае атрыбуты.***
***Сцяг і герб ледзь прынялі, —***
***Гімн задаў пакуты.***

# I spell, therefore I am

THE ECONOMIST

MINSK AND VILNIUS

TO THE outsider, it could hardly seem more arcane: a country that scarcely uses the Latin alphabet is the setting for an irritable dispute about how to spell in it. But the underlying argument goes beyond spelling: how far should a country notoriously short of distinct national features follow the habits of its most influential neighbour, Russia. In Russia, even the English spelling of Russian words is open to argument (Gorbachev or Gorbachov, tsar or czar, *nyet* or *niet*). But such debates are trivial compared with those in Belarus where there is no standard practice of transcription into Latin letters.

In the past most Belarussian names have been treated as if they were Russian. The current foreign minister pronounces his name Krauchenka, but even his own foreign ministry tends to spell it, Russian-style, as Kravchenko. To make matters more confused, several Belarussian letters are spelt one way and pronounced another. One common Slavic name (Igor in Russian) is spelt Igar but pronounced Ihar. Patriotic Belarussians put Ihar on their English-language visiting cards; Russophiles, Igor.

One of the few areas of consensus is the name of the country: Belarus (the extremely politically correct version is Belarus'—the apostrophe indicating the Cyrillic sign that softens a consonant). Unfortunately, foreigners have been less than co-operative, and often use Russified transcriptions such as Belorus, Byelorussia or Belorussia. Until this week, *The Economist* preferrred Belorussia, the name we have always used. Now, in the face of official requests, we have yielded to Belarus (as we have similarly yielded to Côte d'Ivoire rather than Ivory Coast, Myanmar rather than Burma, and so on).

The debate has become more sensitive since Russia dropped its post-putsch habit of calling the countries of the "near abroad" by their self-selected, rather than Russian, names. Thus Moldova is once again Moldavia for Russians, who might reasonably point out that few English-speakers would agree suddenly to start calling Germany Deutschland or Italy Italia. In any case, some Russian nationalists, such as Vladimir Zhirinovsky, think Belorussia should in any case—spelling apart—drop the Belo.




The Russian legacy has also created difficulties in neighbouring Latvia and Lithuania, where foreign names are habitually rendered phonetically into the local language (the American president is, in Lithuanian, Bilas Klintonas, while his secretary of state is Vorenas Kristoferis). The Lithuanian state language board, which will pulp a book's whole print run if it thinks the much-battered national language is being further polluted by xenologisms, defends the practice: "How will our people know how to pronounce all these foreign words if they are not spelt in Lithuanian?" argues a bureaucrat.

The consequences, however, can be curious. Al Gore's predecessor as vice-president of the United States, for example, was rendered as Donas Kveilas—almost identical to a rather rude Lithuanian word meaning clot-head, while a television commercial for Wrigley's spearmint chewing gum comes within a diphthong or two of urging the consumption of shark sperm.

"ЗВЯЗДА"

# АРМІЯ КРАЁВА НА БЕЛАРУСІ ВАЯВАЛА ЗА СТАРЫЯ МЕЖЫ

**Ветэраны Арміі Краёвай у Польшчы ды і ва ўсім свеце ганарацца сваёй прыналежнасцю да гэтага фарміравання. Акрамя хіба тых, што жылі ў Савецкім Саюзе. Цяпер, аднак, калі знік жорсткі ўціск савецкай рэпрэсіўнай машыны і прапаганды, былыя салдаты АК, якія жывуць у Беларусі, Літве, Украіне, дабіваюцца надання ім правоў і звання ветэранаў другой сусветнай вайны. У грамадстве гэта выклікае неадназначную рэакцыю. Наша газета пісала ўжо аб гэтым (гл. «Звязда», 5 студзеня 1994 года). Аднак тэма далёка не вычарпана. Сёння «Звязда» прадастаўляе слова супрацоўніку Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, кандыдату гістарычных навук Галіне Дзмітрыеўне КНАЦЬКО.**

Дзейнасць польскай Арміі Краёвай (АК) на тэрыторыі Беларусі абумоўлена складаным перапляценнем гістарычных падзей сярэдзіны XX стагоддзя. Пачатак 2-й сусветнай вайны, дагавор аб ненападзе, а затым аб дружбе паміж Германіяй і СССР, значнае пашырэнне тэрыторыі Савецкага Саюза ў 1939—1940 гадах выклікалі з'яўленне т. зв. «польскага пытання». Яно заставалася актуальным на ўсіх перагаворах паміж краінамі антыгітлераўскай кааліцыі на працягу ўсёй вайны. Не затухала яно і ў пасляваенныя гады. Толькі ў канцы 80-х СССР афіцыйна прызнаў існаванне сакрэтнага пратакола аб межах паміж СССР і Германіяй.

У верасні 1939 года тэрыторыя Беларусі павялічылася амаль што ўдвая за кошт уз'яднання яе заходніх земляў. Ваенныя падзеі, палітычныя і эканамічныя пераўтварэнні ў Брэсцкай, Баранавіцкай, Вілейскай, Пінскай і іншых абласцях Беларусі суправаджаліся рэпрэсіямі супраць польскага насельніцтва. Дзесяткі тысяч палякаў былі арыштаваны альбо дэпартаваны ў глыб СССР. Па дайшоўшых да нашых дзён зводках НКУС дэталёва прасочваецца страшэнная панарама чалавечага гора і лютасці. На працягу чатырох буйных загадзя спланаваных акцый былі выселены асаднікі і працаўнікі лясной вартавой аховы (10 лютага 1940 г.); сем'і ваеннапалонных, схаваўшыхся афіцэраў польскай арміі і паліцэйскіх, буйных землеўладальнікаў, фабрыкантаў і інш. (13 красавіка 1940); бежанцы з акупіраванай Германіяй Польшчы (29 чэрвеня 1940 года); патэнцыяльныя ворагі савецкай улады (у ноч на 20 чэрвеня 1941 года). Усяго, па падліках доктара гістарычных навук А. Ф. Хацкевіча, з кастрычніка 1939 па 20 чэрвеня 1941 года ў заходніх абласцях Беларусі было рэпрэсіравана (за выключэннем ваеннапалонных польскай арміі) больш за 125 тыс. чалавек, з якіх адпраўлена ў Сібір, Казахстан і іншыя месцы больш як 120 тысяч.

Натуральна, што ўсё гэта выклікала пратэст. Са спецпаведамленняў НКУС бачна, што з восені 1939 года на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі існавала польскае антысавецкае падполле. У Пінскай, Баранавіцкай, Брэсцкай, Вілейскай і іншых абласцях дзейнічалі пад рознымі назвамі падпольныя арганізацыі. Яны накоплівалі зброю, мелі радыёпрыёмнікі, распаўсюджвалі антысавецкую літаратуру, выступалі пад лозунгамі ўз'яднання польскай дзяржавы ў былых межах і разлічвалі на дапамогу ўладаў Англіі і ЗША.

Менавіта тады была сфармулявана тэорыя двух ворагаў: Сталіна і Гітлера, а значыцца — СССР і Германіі. Ваеннае і грамадзянскае кіраўніцтва Польшчы ў эміграцыі расцэньвала дзеянні гэтых дзяржаў як несправядлівыя, агрэсіўныя, не прызнавала новых межаў і барацьбу за аднаўленне сваёй краіны лічыла «святой справай».

Тысячы чалавек паплаціліся за гэтую «святую справу» жыццём. Многія з рэпрэсіраваных і не чулі ніколі аб падполлі.

22 чэрвеня 1941 года напад Германіі на СССР польскі ўрад успрыняў са стрыманым задавальненнем, як «высока карысны канфлікт для польскіх спраў». 23 чэрвеня 1941 года ў звароце да насельніцтва старшыня Савета Міністраў Польшчы генерал В. Сікорскі сказаў: «Здарылася тое, чаго мы чакалі, але не спадзяваліся, што гэта будзе так хутка. Разваліўся гітлераўска-бальшавіцкі саюз, заключаны ў пачатку гэтай страшнай катастрофы, ахвярай якога стала Польшча. На золку 22 чэрвеня нядаўнія прымірэнцы ў вайне сталі ворагамі. Такое развіццё падзей для Польшчы вельмі карыснае».

Польшча адразу пазбавілася аднаго «ворага», які ў барацьбе супраць Германіі мог ператварыцца ў саюзніка. 30 ліпеня ў Лондане быў падпісаны дагавор аб устанаўленні дыпламатычных адносінаў паміж СССР і Польшчай. Пытанне аб межах у ім не закранался. Але польскі ўрад лічыў яго вырашаным, бо калі дагавор аб дружбе паміж Германіяй і Савецкім Саюзам быў парушаны, то страціў сілу, на думку палякаў, і пратакол аб межах. У пытанні аб усходніх землях Польшчу падтрымала Вялікабрытанія. У той жа дзень адбыўся абмен пасланнямі паміж С. Ідэнам і В. Сікорскім па пытанню непрызнання Вялікабрытаніяй змен межаў, якія адбыліся ў Польшчы ў верасні 1939 года.

Гэтыя і іншыя дакументы дазволілі ўраду В. Сікорскага распачаць ажыццяўленне шырокай праграмы нелегальнай узброенай барацьбы на тэрыторыі Польшчы ў яе былых межах, у тым ліку і на землях Заходняй Беларусі. Найбольш моцнай арганізацыяй стаў Саюз узброенай барацьбы.

Аднак урад СССР не збіраўся адмаўляцца ад сваіх земляў. На ўсёй тэрыторыі Беларусі з першых дзён нямецкай акупацыі стала разгортвацца падпольная барацьба, дзейнічалі партызанскія атрады. Савецкія партызанскія атрады і падпольшчыкі сутыкаліся з польскімі нелегальнымі арганізацыямі. У 1942 годзе, пасля стварэння Цэнтральнага (май) і Беларускага (верасень) штабоў партызанскага руху, наладжваецца рэгулярная радыё і авіясувязь з партызанскімі фарміраваннямі, а праз іх — з падполлем у гарадах і вёсках. У штабы партызанскага руху, у ЦК КП(б)Б паступалі дакументы з акупіраванай тэрыторыі, у якіх паведамлялася і аб адносінах немцаў да палякаў, аб польскіх арганізацыях.

У дакументах, датаваных 1942 годам, як правіла інфармацыя абмяжоўвалася тым, што з устанаўленнем «новага парадку» і ўвядзеннем грамадзянскай акупацыйнай адміністрацыі амаль усе кіруючыя пасады ў мясцовым самакіраванні заходніх абласцей Беларусі былі заняты палякамі. Аднак з канца 1941—пачатку 1942 гадоў палякаў пачалі звальняць з органаў мясцовага самакіравання і службы аховы парадку і замяняць беларусамі. У дакументах за 1942 год да пытанняў польскага падполля асаблівай увагі з боку ЦК КП(б)Б, ЦШПР, БШПР не адчуваецца. Гэта абумоўлівалася развіццём адносінаў паміж СССР і Польшчай.

У жніўні 1941 года быў падпісаны дагавор аб фарміраванні на тэрыторыі СССР польскай арміі. Генерал В. Андэрс пачаў збіраць яе з ваеннапалонных польскіх афіцэраў, раскіданых па лагерах Сібіры і Казахстана. 4 снежня 1941 года генерал В. Сікорскі падпісаў у Маскве з урадам СССР умовы ваеннай узаемадапамогі ў барацьбе з Германіяй.

У сакавіку 1942 года армія В. Андэрса пачала эвакуацыю з СССР. Але ваяваць яна стала не на сплываючым крывёю савецка-германскім фронце, а пайшла праз легендарную Персію ў далёкую Афрыку. У лютым 1942 года на базе нелегальнага Саюза ўзброенай барацьбы і іншых сіл па загаду польскага кіраўніцтва ў Лондане была створана Армія Краёва.

У Маскве справа дайшла да стварэння Саюза польскіх патрыётаў у СССР і новых польскіх узброеных сіл на чале з З. Берлінгам.

Паступова накопліваючыся, супярэчнасці вялі да ахаладжэння савецка-польскіх адносінаў. Гэта ўлічвала Германія. Пасля паражэння пад Сталінградам, спрабуючы разваліць антыгітлераўскую кааліцыю і адначасова выйграць час, каб паправіць становішча на фронце, Гітлер выкінуў «катынскую карту».

Трагедыя польскіх афіцэраў у Катыні ўзрушыла свет. І хаця антыгітлераўская кааліцыя не распалася, адносіны паміж СССР і Польшчай у сакавіку 1943 года былі разарваны.

З гэтага часу ў разведаддзел Беларускага штаба партызанскага руху пачалі паступаць і накопліваюцца дакументы аб паводзінах палякаў на акупіраванай тэрыторыі. Калі раней палякаў толькі ўшчувалі за неактыўную барацьбу з немцамі, за іх лозунг «трымаць зброю ля нагі», цяпер тон данясенняў змяніўся. Уся інфармацыя аб польскіх фарміраваннях дакладна аналізуецца. З прадстаўнікамі польскіх узброеных падраздзяленняў вядуцца доўгія і, як правіла, беспаспяховыя перагаворы аб сумесных дзеяннях супраць акупантаў. Перагаворы гэтыя былі неабходны галоўным чынам для высвятлення пытанняў разведвальнага характару, прычым яны пастаянна натыкаліся на тэрытарыяльныя спрэчкі.

Так, 22 чэрвеня 1943 года ў адрас камандавання Ленінскай партызанскай брыгады, што дзейнічала ў Баранавіцкай вобласці, з польскага штаба «Усход» быў накіраваны ультыматум: «...Патрабуем безапеляцыйна ад камандавання савецкіх партызан указання мяжы баявых дзеянняў. Межы нашага ўплыву і дзеянняў мы чэрцім у адпаведнасці з лініяй польска-савецкай граніцы перад 1.9.1939. У сувязі з чым усе дзеянні груп на гэтай тэрыторыі павінны быць узгоднены з намі...» Штаб Ленінскай партызанскай брыгады накіраваў палякам адказ, у якім адносна граніцы паміж Польшчай і СССР гаварылася: «Чарціць лінію мяжы паміж савецкай і польскай дзяржавай лічым несвоечасовым і не ўваходзячым у нашыя задачы». У такім жа плане вытрыманы і іншыя дакументы аб перагаворах паміж польскімі і савецкімі ўзброенымі фарміраваннямі, якія размяшчаліся на акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

Вось радкі з перагавораў паміж камандаваннем савецкай партызанскай брыгады імя А. Неўскага і кіраўніцтвам польскага батальёна, якія адбыліся 10 мая 1944 года: «Толькі пасля таго, як мы атрымаем ад Савецкага Саюза гарантыі межаў да 1939 года, а войскі будуць насіць мілітарны характар, а не палітычны, толькі тады мы будзем разам разбіваць нямецкія гарнізоны і весці іншую ваенную работу».

(Далей глядзі на стар. 5-ай)

А. К. ЦІТОЎ

# ШМАТПАКУТНАЯ БЕЛАРУСЬ

(Заканчэньне, пачатак у папярэднім №)

Яшчэ праз тры тыдні бальшавікі на чале з Леніным прыдумалі, як насаліць Літоўскай Тарыбе. Пры актыўным удзеле М. Калініна і Я. Свярдлова былі аб'яднаны Літоўская і Беларуская ССР у адзіную — Літоўска-Беларускую ССР пры федэратыўнай сувязі апошняй з РСФСР. Гэта тлумачылася бальшавікамі так: «обезопасить эти республики от возможности проявления в них национал-шовинистических устремлений». На самай справе рабілася спроба сутыкнуць ілбамі два народы, а затым выступіць у ролі вярхоўнага суддзі. І яшчэ было на мэце — паказаць буржуазнай Тарыбе, што пры ўладзе бальшавікоў літоўцам будзе лепш. Вядома, аніводнага беларуса ва ўрадзе ЛітБела не было! Праўда, праіснаваў гэты ЛітБел усяго некалькі месяцаў, разваліўшыся пад ударамі польскіх легіянераў.

Пройдзе яшчэ некаторы час, і бальшавікі падпішуць з імі ўмовы міру, якія дадуць, па выразу А. Іофе, «тую граніцу, якую жадала (Польшча. — *А. Ц.*). Расія і Украіна ў гэтым пытанні ішлі насустрач... вельмі шырока»[11]. Вядома ж — за кошт Беларусі! Ды і Расія добра «нагрэла рукі» пад шум страляніны і грукатанне конскіх капытоў, бо паспела-такі завалодаць Віцебшчынай, Магілёўшчынай, Смаленшчынай і г.д.

Увогуле пасля заключэння Рыжскага міру тэрыторыя, пакінутая БССР суседскімі палітыкамі, лёгка размяшчалася на 52 398 вёрстах. А насельніцтва складала крыху больш 1,5 мільёна чалавек. Яе межы «шырока» раскінуліся ад Барысава да Мазыра і ад Слуцка да Бабруйска. Менавіта ў гэтыя часы нарадзілася прымаўка: «У Беларусі тры сталіцы — Мінск, Лагойск і Плешчаніцы». Такое рэзкае звужанне межаў БССР у 192[illegible] г. (параўнаем з дэкларацыямі тэрыторыямі БНР у сакавіку 1918 г., затым БССР — у 1919 г.) тлумачыцца вельмі проста.

Маскоўскі ўрад зрабіў тэрыторыю БССР прадметам гандлю. Вынікам Рыжскага дагавору была страта заходніх абласцей Беларусі. Не выключалася, што і астатняя частка Беларусі магла быць перададзена на карысць заходняга суседа. 19 сакавіка 1921 г. у 8 гадзін 30 хвілін пачаліся перагаворы ў Рызе. Кіраўнікі дэлегацыі Ян Домбскі ад Польшчы, Адольф Іофе ад РСФСР (агульны кіраўнік дэлегацыі) і Юрый Кацюбінскі ад УССР выступілі з кароткімі прамовамі, адпаведна на польскай, рускай і ўкраінскай мовах. Потым пачаліся перагаворы. Першым выступіў Я. Домбскі, які падкрэсліў, што Польшча добраахвотна, кіруючыся прынцыпам самавызначэння народаў, прызнала незалежнасць Украіны і Беларусі. А. Іофе гаворыць аб самавызначэнні Расіі, успамінае аб Украіне, але ніводным словам не згадвае пра Беларусь. І толькі ў тэксце дагавора слова «Беларусь» сустракаецца ў артыкуле, дзе гаворыцца аб размежаванні граніц. Пазней выдатны бальшавіцкі дзеяч В. Кнорын пісаў, што Беларусь не ўдзельнічала ў Рыжскіх перагаворах. «так как она не принимала участия в войне советских республик (супраць Польшчы. — *А. Ц.*). Белорусская республика — результат русско-польской войны. До этой войны Советской Белоруссии не было»[12]. Нельга сказаць, што В. Кнорын быў шчырым у сваім выказванні. Яшчэ ў заяве УЦВК у верасні 1920 г., якая была падпісана М. Калініным і А. Енукідзе, гаварылася: «Зыходзячы з прынцыпу самавызначэння, РСФСР ужо ў 1917 годзе прызнала і нязменна прызнае безумоўна і без усялякіх абмежаванняў незалежнасць і суверэннасць Польскай Рэспублікі, з 1918 г. незалежнасць і суверэннасць Украіны і Беларусі. А ў 1920 г. падпісала мірны дагавор з незалежнай і суверэннай Літоўскай Рэспублікай»[13]. Дата заявы сведчыць сама за сябе. Якраз у гэты момант польскія войскі зноў перахапілі ваенна-стратэгічную ініцыятыву. Пачаліся папярэднія перагаворы ў Мінску. Ставілася задача збіць з панталыку магчымых саюзнікаў Польшчы — Беларусь і Украіну, а ў самой Польшчы пасеяць сумненні ў мэтазгоднасці далейшага наступлення. Калі ж на фронце наступае пэўная стабільнасць, пра Беларусь зноў забываюць.

Дзіўна, але 31 ліпеня таго ж года паўторна аб'яўляецца Дэкларацыя аб незалежнасці ССРБ. У ёй ёсць такія словы: «абапіраючыся на жаданне працоўных мас, выражанае на з'ездзе Саветаў у лютым 1919 г., са згоды Чырвонай арміі, Рэўваенсавета Заходняга фронта, ад імя паўстаўшых рабочых і сялян агалошана незалежная Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь»[14]. Гэты дакумент падпісалі: ад ЦК Кампартыі ЛітБела — Смілга, той жа Кнорын, Чарвякоў, ад ЦК Бунда — Ванштэйн, ад ЦК беларускіх камуністычных арганізацый — Ігнатоўскі, ад Цэнтральнага савета беларускіх прафсаюзаў Мінска і губерні — Крыніцкі. Паказальна, што ў гэтай дэкларацыі быў пункт, які ніколі не выконваўся ў дачыненні да Беларусі. У ім гаварылася: «ССРБ определяет

# ЛЕПЕЙ ЖЫЦЬ НЕ СТАЛА, АЛЕ ЖЫЦЬ СТАЛА ВЕСЯЛЕЙ

**Максім ГРЭК, «ДВ».**

Сёння, калі ты, паважаны чытач, трымаеш у руках гэты нумар газеты, мы з табой маем нагоду адзначыць два невялічкія юбілеі. Роўна два месяцы таму, 23 чэрвеня, Вячаслаў Кебіч пахаваў свае апошнія надзеі застацца ва ўладным эшалоне, скандальна праваліўшы першы тур выбараў. І амаль месяц таму адбылася цырымонія інаўгурацыі першага Прэзідэнта нашай краіны, якая афіцыйна замацавала за Аляксандрам Лукашэнкам права дзейнічаць на самай адказнай пасадзе ў Беларусі.

Юбілеі, як сам бачыш, невялікія, але адметныя.

Першы азначаў, што скончылася бясконца цяжкая і нудная для нашай краіны эпоха, якую «Добры вечар» трапна назваў «КЕБІЧаваннем». У той дзень стала абсалютна зразумела, што Вячаслаў Францавіч, з вашага дазволу мовіць, буйны дзяржаўны дзеяч эпохі здзеку над беларускай дзяржаўнасцю, нарэшце спёкся. Скончылася бясконцая цягамоціна пустых абяцанак, непадпісаных дагавораў, санкцыянаваных зверху крадзяжоў і «разарваных эканамічных сувязей». Памятаеш, чытач, фільм «Сем старых і адна дзяўчына»? Там старым надта не падабалася займацца рознымі нягеглымі практыкаваннямі, калі жанчыны ўжо ў валейбол гулялі. З Беларуссю адбывалася тая самая сітуацыя. Яна старанна скакала на месцы нейкі дзіўны «хіп-хоп» пад дудку кебічавай каманды, у той час як яе суседкі выходзілі на старт і бралі бар'еры ў нялёгкім марафоне з перашкодамі да стану цывілізаваных краін. 23 чэрвеня дудка змоўкла. Скакаць усім рэзка разахвоцілася, і Беларусь, знянацку спыніўшыся, у разгубленасці паглядала на новага «дудара», спрабуючы здагадацца, якія мелодыі, акрамя барацьбы з карупцыяй, знойдуцца ў яго рэпертуары.

Праз месяц новы дудар займеў усе неабходныя паўнамоцтвы дзеля выканання галоўнай партыі, але... найграваць нам новыя песенькі не стаў! «Хопіць танчыць — час брацца за працу!» — такім стаў галоўны прынцып новай дзяржаўнай палітыкі. Аляксандр Лукашэнка здолеў за месяц зрабіць тое, чаго Беларусь чакала доўгія гады — ён прымусіў краіну кінуць танцы і заняцца спортам. Інакш кажучы, рухацца.

Яго дзейнасць, якая ўваходзіць у гісторыю нашай краіны навечна хаця б з той нагоды, што ён ПЕРШЫ, яшчэ будзе, вядома, неадночы аналізавацца і крытыкавацца. Гэта — факт, і гэта добра. Першая сапраўды сур'ёзная крытыка ў яго адрас можа прагучаць месяцы праз два, пасля ста дзён прэзідэнцтва. Больш цяжэй яму давядзецца, пэўна, недзе напачатку будучай вясны, калі скончыцца той тэрмін, які ён сам папрасіў для сябе дзеля ажыццяўлення рашучых крокаў.

Крытыка будзе, і сам спадар Прэзідэнт, спадзяюся, будзе ёй рады, бо яна заўсёды дапамагае вывяраць правільнасць абранага шляху і ўдакладняць асноўныя пазіцыі.

Але сёння, праз месяц свайго прэзідэнцтва, Аляксандр Лукашэнка мае ў актыве вялізны плюс, які пераважвае ўсе мінусы, што ўзніклі за гэты час. І плюсам гэтым, без сумнення, можна назваць яго рашучасць.

Бог ты мой, колькі казалася і пісалася пра ідыёцкія датацыі і вар'яцкі малыя цэны на хлеб і малако! Колькі разумных людзей сцвярджала, што становішча неабходна тэрмінова і кардынальна выпраўляць! А спадар Лукашэнка ўзяў — ды выправіў...

Так, рашэнне аб павышэнні кошту таго ж хлеба адразу ў дзесяць разоў магло б, вядома, быць падрыхтавана і лепей. І пра гэтая казаў у мінулы раз. Але галоўнае — яно было прынята, а перавагі гэтага кроку мы ўжо адчулі, а яшчэ лепей адчуем праз пэўны час, калі прэзідэнт ажыццявіць тыя неабходныя захады, абавязковасць якіх ён выдатна разумее сам.

Такім жа лагічным крокам новых уладаў стала дэнамінацыя нашага рубля. Так, мы яшчэ крыху блытаемся пры разліках, і прадаўшчыцы даўжэй задумваюцца, выдаючы нам у крамах рэшту. Але факт ёсць факт — «заяц» каштуе рубель, а «бабёр» — тры, менавіта так, як і напісана на банкнотах. І нават (цьфу-цьфу!) асаблівая вялікага «заліпання» цэнаў пры дэнамінацыі не адбылося, хоць пра канчатковыя вынікі гэтай акцыі разважаць яшчэ, безумоўна, ранавата.

Не аднімеш у прэзідэнта рашучасці і ў кадравых зменах, і ў адносінах з прэсай, і ў дэкларавацых рэгулярных тэлезваротах да грамадзян краіны і г.д. і да т.п. Нават да спорту ён выявіў належныя адносіны, наведаўшы футбольны матч і пашкодзіўшы спіну падчас уласных заняткаў нечым падобным.

Удвая прыемная яго рашучасць у адносна непарушнасці і першакаштоўнасці беларускай дзяржаўнасці. Здаецца, ад таго былога дэпутата Аляксандра Лукашэнкі, які мог дазволіць сабе іншым разам згуляць у адныя вароты з так званым Народным рухам, мала чаго засталося. І ён, і яго каманда падкрэсліваюць неабходнасць абсалютнай недатыкальнасці Рэспублікі Беларусь як незалежнай і суверэннай краіны з усімі атрыбутамі і наступствамі. І нават старшыня парламента спадар Грыб пры такім прэзідэнце выступіў з нечакана бліскучай прабеларускай прамовай перад пасламі нашай краіны ў замежных дзяржавах.

Словам, на старт сваю краіну прэзідэнт ужо вывеў, і вывеў рашуча і безапеляцыйна, да таго ўпэўнены ва ўласных сілах, што пераадолеў абсалютна натуральную перасцярогу быць незразуметым уласнымі выбаршчыкамі.

І Беларусь гатова бегчы, каб перамагчы любога саперніка. Толькі... куды?

Дагэтуль прэзідэнт не прадаставіў ні парламенту, ні народу свайго бачання перспектыў эканамічных рэформаў і іх канчатковай мэты. Так, на выпрацоўку эканамічнай праграмы патрабуецца час, і немалы. Толькі пэўнае сумненне з'яўляецца ад таго, што выкананне гэтых праграм будзе даручацца людзям, якія былі на занадта ўплывовых пасадах пры Кебічы. Той жа Міхаіл Мясніковіч, які быў першым намеснікам у Вячаслава Францавіча, з такім жа поспехам збіраецца працаваць на А.Лукашэнку. Толькі ці трэба краіне «такія ж» поспехі? (Я, безумоўна, прашу прабачэння за ўмяшанне не ў свае справы. Прызнаюся, што зусім не ведаю тонкасцей узаемаадносін Кебіча і Мясніковіча месяц, год-два таму. Проста я не разумею: калі першы намеснік не згаджаўся са сваім прэм'ерам, навошта ён так доўга працаваў у тым урадзе? Калі ж ён згаджаўся і дапамагаў, то навошта ён ва ўрадзе новым?)

Гэткую ж трывогу выклікаюць і некаторыя іншыя кадравыя прызначэнні нашага прэзідэнта. Падобна на тое, што прынцып асабістай адданасці іншы раз пачынае дамінаваць над патрабаваннем абсалютнай прафесійнасці.

І тым не менш, усе хібы, якія можна знайсці ў дзейнасці прэзідэнта і яго каманды, можна вызначыць пакуль што як хваробы развіцця. Бясспрэчна адно — месяц дарма не згублены. Аляксандру Лукашэнку ёсць чым пахваліцца. І, што самае прыемнае, — у нас з'яўляюцца спадзяванні на лепшае.

І не бяды, што жыць лепей пакуль не становіцца. Галоўнае — жыць стала весялей...

---

**Згадкі**

# ПАД ГРЫФАМ «СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО»

Заходняя Беларусь. 1940 год. На парозе — Вялікая Айчынная вайна. А тут пасля «вызваленчага» паходу Чырвонай Арміі ўсё яшчэ ваююць з тымі, каго год назад «вызвалілі». Хапаюць усіх падазроных, саджаюць у турмы нават тых, хто толькі-толькі вызваліўся з польскіх турмаў. Астрогі зноў бітком набіваюцца людзьмі. Здараецца, арыштоўваюць нават за тое, што не так зірнуў на прадстаўніка новай улады, не тое сказаў на кірмашы ці вуліцы. Ці пайшоў, напрыклад, чалавек у краму купіць запалак, а дамоў ужо не вярнуўся, бо трапіў за краты. Звычайна, падкрэслю, без ніякай прычыны. І надоўга ці назусім. Калі арыштаваны здзіўлена пытаўся ў міліцыянера: «За што?», той флегматычна адказваў: «Там разбяруцца». І «разбіраліся».

Перада мною — пракурорская папка з філіяла Менскага абласнога архіва, які знаходзіцца ў Маладзечне. Філіял, дарэчы, цяпер займае будынак былой турмы. І, нібы знарок, судовыя дакументы захоўваюцца ў сутарэннях халодных камер, сцены якіх яшчэ памятаюць крОў і слёзы запахаваных.

Развязваю зашморгнутую вузельчыкам-пятлёю тугую папку, на вокладцы машынапісны надпіс: «Вилейская областная прокуратура БССР, гор. Вилейка. Акты проверки работы судов, тюрем, облпрокуроров по спецделам. Списки лиц, задержанных погранотрядами, находящихся в тюрьмах и др. Начато: 20.02.1940 г. Окончено 03.12.1940 г.»

...Наўрад ці сёння хто дакладна ведае, як тады «разбіраліся» з «ворагамі народа». Таму з увагай чытаю пажоўклыя ад часу аркушы, аб'яднаныя грыфам «Совершенно секретно».

7 лістапада 1940 года пракурор Маладзечанскага раёна Гваздовіч, праверыўшы гарадскую турму, выявіў, што 5 чалавек тут знаходзяцца нават без пастановы і санкцыі пракурора на арышт. Гваздовіч прапанаваў начальніку турмы Якаўлеву «дать... указание личному составу тюрьмы о том, что по мотивированному постановлению с утверждением... НКВД можно содержать арестованных не более 24 часов, а после требовать постановления на арест с санкцией прокурора или задержанного из-под стражи немедленно освободить».

Дарэчы, гэта адзіны выпадак законных дзеянняў пракурора, які трапіў мне на вочы з усёй таўшчэзнай папкі перапіскі карных устаноў. Але далейшае знаёмства з афіцыйнымі паперамі пераканала: менавіта такая простая ісціна, што абсалютна недапушчальна пасадзіць чалавека за краты без абвінавачвання, ўспрымалася пракурорамі, начальнікамі турмаў і супрацоўнікамі НКУС, як нешта неверагоднае.

Вось акт праверкі пракурорамі спецаддзела Вілейскай абласной пракуратуры Айзенштатам і Ампілавым турмы горада Вілейкі ад 15.02.1940 года. Прысутнічалі начальнік 1-га спецаддзела НКУС Вілейскай вобласці Аствацтуран і начальнік турмы Колесаў. Выяўлена наступнае: «Главный корпус тюрьмы состоит из 41 камеры. Лимит установлен на 350 человек, а содержится... 827 человек. Из них: числится за УНКВД 808 человек, за органами милиции — 5, за судами — 6, за прокуратурой — 4, осужденных — 1 человек (!). Содержится без оформления и санкции прокурора, считая с сентября месяца 1939 года, 260 (!) человек, на которых личных дел в канцелярии тюрьмы не имеется. Кроме этого, 326 человек содержится с истекшим сроком содержания под стражей без санкции прокуроров. Выявлено, что гражданин Скуратович Адам Карлович с 28 октября 1939 года содержится и доставлен в тюрьму по телефонному распоряжению бывшего начальника опергруппы НКВД Вилейского уезда тов. Козмана. В 12-ой камере главного корпуса тюрьмы выявлено, что 4 человека содержится под стражей с 20.12.1939 года, они не получали нижнего белья, не проходили санобработку. В женских камерах 30, 32 находятся больные туберкулезом Разднерова Ванда Петровна (арестована 5.11.1939 г.) и Адвинсенчак Анна Валентиновна (арестована 30.12.1939 г.). Тюремный врач Шварц до сего времени не установил диагноз на предмет изолирования. В камерах 30, 32, 37 имеется вшивость. В камере 30 находится заключенная Дроздова Анна Викентьевна, имеющая семимесячную беременность...»

Звярніце ўвагу, што Айзенштат і Ампілаў не зрабілі ніякіх захадаў, каб хоць крыху аблегчыць пакутны лёс вязняў. Яны толькі прапануюць начальніку турмы без санкцый пракурора арыштаваных не прымаць. Але на практыцы такія прапановы не выконваліся, бо вязні часта траплялі сюды з камер папярэдняга зняволення. Адна з іх, напрыклад, знаходзілася ў 83 пагранатрадзе. Згаданы Айзенштат пасля наведання гэтай кутузкі пісаў у сакрэтнай справаздачы пракурору БССР Вятрову і наркому ўнутраных спраў Цанаве: «Арестованные в КПЗ 83 погранотряда содержатся до полутора месяца вместо 10 дней не по вине начальника погранотряда тов. Малыка, а потому, что тюрьмы не принимают арестованных вследствие перегрузки. Нередко бывают случаи, что начальники РО (раённых аддзелаў) НКВД не принимают... дела для дальнейшего следствия, а в результате грубо нарушают сроки ведения следствия, поэтому просьба принять соответствующие меры к разгрузке арестованных в КПЗ 83 погранотряда и урегулировать вопрос в отношении приема следственных дел от погранотряда».

Але вышэйшая ўлада маўчала. Шматлікія скаргі з месц сведчаць аб тым, што тэлеграмы і лісты пад грыфам «Совершенно секретно» пасылаюцца ў нікуды. У Менску яны рэгістраваліся і падшываліся ў стандартныя папкі з тым самым грыфам.

Пракуроры і іх намеснікі фактычна займаліся бязглуздым ліставаннем. Яны ў вочы хлусілі начальнікам турмаў, а тыя — адзін аднаму: «Лично прокурору Вилейской области по спецотделам тов. Айзенштату. Ставлю Вас в известность, что 24 июля с. г. прыбыли из Глубокской тюрьмы заключенные в количестве 11 человек по назначению в Вилейскую тюрьму, на которых срок санкций на право содержания под стражей истек. Мною данный контингент з/к/зэкаў/ в тюрьму не принят и направлен в УНКВД Вилейской области для полного оформления личных дел. В результате чего зам. начальника УНКВД Радченко обязался к вечеру оформить личные дела з/к, мотивируя тем, что сейчас оформить личные дела на заключенных невозможно физически. Мною контингент был принят. До сих пор зам. начальника УНКВД тов. Радченко личные дела на з/к не оформил. Довожу до Вашего сведения. Начальник тюрьмы НКВД БССР г. Вилейка Колесов».

А вось і яшчэ адзін дакумент. Ёнузор бюракратычна-злачыннай перапіскі пракурора са сваімі паплечнікамі па генацыду, здзеку над беспадстаўна арыштаванымі. Са зместу вынікае, што 28 зняволеных, якіх начальнік райаддзела НКУС у Браславе арыштаваў і трымаў пад вартаю без пастановы і санкцыі пракурора, перакідвалі з адной турмы ў другую. І ў кожнай турме ад іх хацелі як найхутчэй пазбавіцца, бо ніхто не браў на сябе адказнасць іх вызваліць. А пракуроры тым часам між сабою перакідваліся пустымі паперкамі: «Сов. секретно. Прокурору Вилейской области. На основании распоряжения военного прокурора... г. Лида от 23.01.40 г. направлено... производства по делам арестованных на территории Западной Белоруссии по Ашмянскому уезду для дальнейшего наблюдения за следствием. Список на 82 человека прилагается. Пом. военного прокурора Хейфен».

Ад падобнай перапіскі распухла папка. І не адна. Але папкі з судовымі справамі беспадстаўна асуджаных утрымліваюць у сабе ўсяго адзін шматок паперы: пастановы суда аб тэрміне зняволення (5—25 гадоў). Трапіўшы ў берыеўскія астрогі, любы заходнебеларускі жыхар, вельмі часта арыштаваны без санкцыі пракурора, ужо не мог адтуль выбылтацца. Здараліся, праўда, і «выключэнні». Так, напрыклад, без віны арыштаваныя і асуджаныя Маладзечанскім «народным» судом Сігізмунд Рэкс і Браніслаў Іванавіч Сяеніцкі не паспелі трапіць у Сібір, бо... памерлі ў турме.

Мікола КАПЫЛОВІЧ

"Наша Слова"

*Сяргей ФЕДАРУК,* *генеральны дырэктар акцыянернага таварыства «Брэсцкія дываны»*

# «НА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ НА РЫНКАХ ЕЎРОПЫ НЕДАВЕРУ ДА НАШАЙ ПРАДУКЦЫІ НЯМА»

ЗВЯЗДА

***Брэсцкія дываны апошнім часам набылі шырокую папулярнасць. І не толькі ў Беларусі. Зрэшты, гэта не дзіўна. Прыгожыя ўзоры, багаты арнамент, сакавітыя фарбы – вось далёка не поўны спіс вартасцей, якімі можа ганарыцца любы брэсцкі дыван.***

***Праўда, з пачаткам разрыву эканамічных сувязей паміж рэспублікамі былога Саюза, з-за палітычнай нестабільнасці ў многіх дзяржавах СНД трымаць высокую марку якасці і непаўторнасці становіцца ўсё цяжэй.***

***Няхватка сыравіны, немагчымасць канверсаваць беларускія «зайчыкі» ў расійскія рублі, мытныя перашкоды... Гэтыя і многія іншыя праблемы ўжо не адзін год суправаджаюць брэсцкіх дываноўшчыкаў. Аднак і ў такой складанай сітуацыі кіраўніцтву дывановага аб'яднання ўдаецца не толькі не збавіць абаротаў, але і значна іх павялічыць.***

***Аб тым, як жыве сёння акцыянернае таварыства «Брэсцкія дываны», карэспандэнт «Звязды» гутарыць з генеральным дырэктарам Сяргеем ФЕДАРУКОМ.***

— Становішча ў нас цяпер далёка не бязвоблачнае, — гаворыць Сяргей Харытонавіч. — Сітуацыя мяняецца кожны дзень. Адно сыходзіць, другое прыходзіць.

Была зіма — была няхватка электраэнергіі. У І квартале 1994 года гэты фактар вельмі негатыўна адбіўся не толькі на рабоце нашага аб'яднання, але і на становішчы нашых партнёраў у Расіі.

І ў нас, і ў іх сёння ёсць пэўныя складанасці з-за адсутнасці сыравіны.

**— Вы непасрэдна «завязаны» на Расію?**

— Вядома. Да 100 тысяч квадратных метраў дываноў штомесяц ідзе ў Расію, каб там прадаць тавар за расійскія рублі, за якія мы там жа закупляем сыравіну. Праўда, многае адтуль ідзе па бартэру.

**— А што ж беларускія прадпрыемствы?**

— Тут пэўныя складанасці. З-за адсутнасці бавоўны ў нашага пастаяннага пастаўшчыка — Гродзенскага прадзільна-ніткачнага аб'яднання мы атрымалі адтуль толькі 26 працэнтаў бавоўнянай пражы.

Тое ж самае з ільном. Гродзенскі льнокамбінат у І квартале, нягледзячы на дагавор, забяспечыў нас сыравінай толькі на 69 працэнтаў. Прыйшлося шукаць дапамогі ў Расіі. Насустрач пайшла Вязьма. Яшчэ нам удалося навесці добрыя кантакты з Васкрасенскам, Яраслаўлем. Нейкім чынам да нядаўняга часу выходзілі з сітуацыі. Аднак і на прадпрыемствах блізкіх нашых суседзяў здараюцца прастоі. Таму кожны дзень не ведаеш, што будзе заўтра.

Тым не менш, за чатыры з паловай месяцы гэтага года ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года тэмпаў вытворчасці мы не зменшылі, а ў красавіку-маі нават далі прырост.

**— Сяргей Харытонавіч, дзякуючы чаму вам удаецца трымацца на плаву і што сёння сабой уяўляе ваша аб'яднанне?**

— Пачну з апошняга. У нас ёсць дзве фабрыкі — прадзільная і ткацкая. Сёння яны могуць выпускаць у год 7,5 тысячы тон пражы і 5 мільёнаў квадратных метраў дываноў.

У мінулым годзе мы абнавілі сваё абсталяванне. Устанавілі новыя рапірныя станкі, якія па сваіх вартасцях пераўзыходзяць старыя чаўночныя.

У цэлым працуем па прынцыпу: мець дастаткова прадукцыі выдатнай якасці пры мінімальных затратах.

**— Што ўяўляе сабой працоўны калектыў акцыянернага таварыства «Брэсцкія дываны»?**

— Зараз на аб'яднанні працуюць звыш трох тысяч чалавек. Працуюць у 3-зменным графіку — 7 дзён на тыдзень. І ў суботу, і ў нядзелю.

**— Якія сацыяльныя гарантыі мае чалавек, які ў вас працуе?**

— Сацыяльная сфера сёння на ўсіх прадпрыемствах, і ў нас у тым ліку, стаіць на першым месцы. Мы добра ведаем, што такое жыллё.

А калектыў у нас у цэлым малады.

Я вам скажу, што сёння ў нас у інтэрнатах пражываюць амаль паўтары тысячы юнакоў і дзяўчат. І неадкладна трэба думаць, што заўтра будуць вяселлі, пачнуць ствараюцца сем'і, пойдуць дзеці.

**— І не будзе маладым людзям дзе жыць?**

— Так. Таму жыллёвая праблема на сённяшні дзень стаіць даволі сур'ёзна. І мы стараемся па магчымасці яе вырашаць.

У гэтым годзе ўзвялі свой 80-кватэрны жылы дом. Зараз гаспадарчым спосабам вядзём будаўніцтва 34-кватэрнага дома. Маем ліцэнзію на яго ўзвядзенне ў цагляным выкананні.

Па бартэру для будаўніцтва яшчэ 250 кватэр запрасілі адну польскую фірму. Яе супрацоўнікі зараз будуюць нам гэтае жыллё.

Вядзем размову з палякамі яшчэ аб 150 кватэрах.

**— Палякі, на ваш погляд, — выдатныя будаўнікі?**

— Ведаеце, з імі проста лягчэй дамовіцца, чым з нашымі будаўнікамі. Беларусам бартэр не патрэбны. Давай грошы наперад.

**— Значыць, чаргі на жыллё праз годдва на вашым аб'яднанні можа не быць?**

— Наўрад ці. Пры штогадовым уводзе 100—150 кватэр чарга не знікае.

Да нас жа штогод больш як 200 чалавек прыходзіць новага папаўнення. Са свайго вучылішча.

**— А так, «з вуліцы», да вас на работу ўладкавацца можна?**

— Я не магу сказаць, што гэта немагчыма. Мы бяром. Тым больш, што, як ні дзіўна, у жыхароў горада вялікага жадання ісці працаваць на наша аб'яднанне няма. Хоць многія людзі зайздросцяць і зарплаце нашых работнікаў, і іх сацыяльнай абароненасці. Але ж за ўсё гэта трэба працаваць.

**— Колькі складае сярэдняя зарплата вашага работніка?**

— За мінулы месяц сярэдні заробак складаў 600 тысяч рублёў. Але гэта нямнога, калі ўлічыць, што ў нас прыходзіцца працаваць і па выхадных.

**— І вам таксама?**

— Прыходзіцца часта быць на рабочым месцы і ў суботу--нядзелю і грузіць пастаўшчыкам прадукцыю. І дзіўна атрымліваецца: адправіць дываны на месца прызначэння часам цяжэй, чым іх вырабіць.

**— Пытанне ў мытні?**

— Я не аматар крытыкаваць. І да мытні — у мяне больш за ўсё пытанняў па арганізацыі ўсёй справы. З 1 красавіка было ўведзена новае патрабаванне: пры пастаўцы прадукцыі за межы рэспублікі — мытны ўзнос.

Я згодзен з гэтым. Гатовы яго плаціць. Толькі вось бы не шкодзіла адрэгуляваць механізм атрымання сертыфікату, дазволу Мытнага камітэта на адгрузку тавару.

Усе гэтыя аперацыі праходзяць з настольскі нізкай арганізацыяй, што мне і гаварыць аб гэтым не хочацца.



**— А вы бачыце тут нейкі альтэрнатыўны варыянт?**

— Вядома. Дайце сёння прадпрыемствам ліцэнзію. Я за яе заплачу 20, 30, 100 мінімальных зарплат, але не буду бегаць па кабінетах, каб кожны раз атрымаць паперку на адпраўку свайго ж тавару. Сёння ж прадпрыемствы адгружаюць сваю прадукцыю для таго, каб заўтра разлічыцца з пастаўшчыкамі і выплаціць людзям зарплату.

**— Сяргей Харытонавіч, як размяркоўваецца выпускаемая прадукцыя? Я маю на ўвазе, якая частка яе ідзе на экспарт, колькі застаецца ў рэспубліцы?**

— Я ўжо сказаў, што асноўная частка дываноўых вырабаў ідзе ў Расію на аплату сыравіны і за грошы. Зусім нязначную частку, дзесьці на 2 мільёны долараў у год, мы адпраўляем у далёкае замежжа. Астатняе застаецца ў рэспубліцы.

**— Са збытам пытанняў няма?**

— Усяляк здараецца. Быў момант, наша прадукцыя ляжала на складзе з-за высокай цаны. Але ўрад пайшоў нам насустрач: быў зніжаны акцызны падатак, і пытанне гэтае было знята. І цяпер астаткі прадукцыі на складзе мінімальныя.

**— Відаць, перастараліся з цэнамі? Дарэчы, хто ўстанаўлівае кошт дываноў?**

— Цэны на дываны ўвесь час былі прэрагатывай Дэпартамента цэн. Але са студзеня гэтага года мы ўстанаўліваем іх самі.

**— Вы сталі акцыянерным таварыствам?**

-- Так. Праўда, гэта зусім не азначае, што мы выйшлі з-пад дзяржаўнай апекі. Ёсць адна акалічнасць. Палова акцый належыць рэспубліканскаму Камітэту дзяржмаёмасці.

**— Сяргей Харытонавіч, зараз многія працуюць па папярэдняй аплаце. Як прынцып «грошы--тавар--грошы» спрацоўвае на вашым прадпрыемстве?**

— Мы стараемся працаваць па такому ж метаду, аднак ёсць выпадкі неаплаты яшчэ нават са студзеня месяца. Атрымоўваецца, што некаторыя дзяржаўныя гандлёвыя арганізацыі атрымалі ад мяне беспрацэнтны крэдыт. І за 4 месяцы інфляцыя з'ела ўсе гэтыя грошы. І ніхто мне гэтыя страты не кампенсуе. Затое за сыравіну плаці папярэдне.

На сёння мы залезлі ў дзяржаўную кішэню — узялі 5 мільярдаў рублёў крэдыту. Але гэта зусім мала ў параўнанні з тым, што нам павінны аддаць даўжнікі — 8 мільярдаў «зайчыкаў» і 2,5 мільярда расійскіх рублёў.

**— Вам не здаецца, што прасцей было б працаваць, прадаючы свой тавар камерцыйным структурам? У іх, напэўна, праблем з грашамі не будзе?**

— Я не прыхільнік распрадаваць усё камерсантам. Каб адны нажываліся за кошт іншых — гэта не ў маіх прынцыпах работы.

Смешна будзе, калі рознага роду прадпрымальнікі будуць мець больш даход з 1 кв. метра, чым тыя, хто вырабляе прадукцыю. Хай лепш гандлююць дзяржаўныя магазіны.

**— Што вы можаце сказаць аб кан'юнктуры рынку ў сваёй галіне?**

— Доўгі час (ды і дагэтуль) бытаваў стэрэатып аб лепшай якасці дываной вытворчасці арабскіх краін. У нейкім сэнсе яно так і ёсць. Аднак, напрыклад, тыя ж персідскія дываны славіліся не столькі якасцю, колькі непаўнальнай афарбоўкай. Цяпер жа ні па каларытнасці, ні па малюнках нашы дываны не ўступаюць ні ўсходняму, ні заходняму рынкам. Беларуская школа мастакоў, безумоўна, адрозніваецца ад азіяцкай, малдаўскай і інш. Але менавіта на нашай базе вучацца мастакі з усіх прадпрыемстваў СНД.

**— Савецкі Саюз разваліўся, а «саюз дывановых прадпрыемстваў» усіх былых братніх рэспублік, дзе ёсць гэтая галіна, застаўся?**

— Так. Мы, дывановыя прадпрыемствы, трымаемся ў пэўным адзінстве, жывём сваёй сям'ёй. Дзесьці разам узгадняем цэны, дзесьці выпрацоўваем агульную палітыку. Я з'яўляюся старшынёй Савета дырэктараў усіх дывановых прадпрыемстваў краін СНД.

**— Сяргей Харытонавіч, у нас зараз нямала спрэчак на бытавым узроўні: якія дываны лепшыя – натуральныя ці штучныя. Ваша думка на гэты конт і як да гэтага ставяцца на Захадзе?**

— Мне больш даспадобы дываны, якія выраблены па схеме: 30 працэнтаў шэрсці, 70 працэнтаў — хімвалакна. Аднак хачу сказаць, што ў еўрапейскіх краінах спажыўцы арыентуюцца або на чыста шарсцяныя, або на чыста сінтэтычныя. Пры гэтым удзельная вага менавіта штучных дываноў у агульным аб'ёме вытворчасці там значна вышэйшая.

**— Якія-небудзь навінкі чакаюцца на вашым прадпрыемстве, каб больш зацікавіць партнёраў, у тым ліку і з далёкага замежжа?**

— У гэтым годзе мы ўжо купілі 100 тон новазеландскай воўны для таго, каб падысці да выпуску дываноў з прысваеннем ім знака «Wulmark». Што гэта азначае? Натуральныя валокны і менавіта той фактар, што пры вытворчасці дываной выкарыстоўвалася новазеландская воўна. Кола сваіх пастаўшчыкоў пашыраем. Закуплена воўна ў Ірландыі. На гэты год ёсць дамоўленасць з турэцкай фірмай аб закупцы ў іх хімічнага валакна — нітрону.

**— Трэба думаць, што ў хуткім часе брэсцкія дываны будуць яшчэ больш прывабнымі і прэстыжнымі за мяжой?**

— Я вам скажу, што ўжо сёння на рынках Еўропы недаверу да нашай прадукцыі няма. Замежныя пакупнікі ведаюць якасць нашых дываноў, але іх, відаць, адпужвае ад шырокага супрацоўніцтва з намі пэўная эканамічная нестабільнасць рэспублікі і адсутнасць нейкіх нарматыўных дакументаў, якія б гарантавалі ім спрыяльныя ўмовы для супрацоўніцтва.

Тым не менш нас там добра ведаюць.

Як вам вядома, у 1993 годзе наша аб'яднанне атрымала Брыльянтавую зорку якасці ў Мексіцы, а сёлета — Залатую арку Еўропы — у Іспаніі.

Таму, на маю думку, мы працуем у правільным напрамку.



# Бязвінная кроў не знікае бясследна

Як палітыку Зянону Пазьняку не пашчасціла ў нядаўнім прэзідэнцкім "баі". Ды ён працягвае каціць далей той палітычны камень, што ўзвалiў на сябе.

А вось як навукоўцу яму ёсць чаму парадавацца: днямі на паліцах кніжных крамаў з'явіцца кніга "Курапаты", на пошукі матэрыялаў для якой Пазьняк затраціў столькі гадоў.

-- Зянон Станіслававіч, я ведаю, што гэта не першае выданне?

-- Так, гэта перавыданне. Першае было надрукавана ў Нью-Йорку гэтак сама на ангельскай і беларускай мовах, як і цяперашняе выданне, надрукаванае на Беларусі.

-- Кніга напісана сухою моваю фактаў...

-- Зразумела, бо гэта навуковая справаздача.

-- У такім выпадку, на якога чытача яна разлічана?

-- На навукоўцаў, у першую чаргу. Але я разлічваў, калі рыхтаваў кнігу, і на тое, што яна зацікавіць простых людзей. Таму ў другое выданне я дадаў два папулярных артыкула і павялічыў колькасць фотаздымкаў.

-- Наконт Курапатаў было столькі версій... І што там пахаваны гамбургскія яўрэі, і што там расстраляны ваеннапалонныя...

-- Гэта звычайная подлая камуністычная прапаганда. Але як бы ім не хацелася, яны не змогуць даказаць адваротнае. Шушкевіч спрабаваў правесці свой доследКурапатаў. І што? Немагчыма даказаць тое, што не з'яўляецца праўдай. А калі па-шчырасці, я ведаю значна больш сакрэтаў, чым напісаў у кнізе.

-- Чаму Вы не выклалі ўвесь матэрыял да канца?

-- Прынцыпова для Курапатаў гэтыя факты нічога не мяняюць. Курапаты яны закранаюць адным бокам, ідуць значна далей і вышэй.

-- Якая асноўная ідэя Вашай кнігі?

-- Расказаць праўду пра генацыд у адносінах да беларускага народа. Генацыд не меншы, а нават большы, чым той, што праводзіўся ў адносінах да сэрбаў і яўрэяў. Толькі тыя нацярпеліся ад фашыстаў, а беларусы ад камуністаў.

-- Але ці закране гэта беларусаў, усіх, хто выбраў сёння сваім лідэрам Лукашэнку?

-- Калі мы пачалі даводзіць людзям першыя звесткі пра Курапаты, гэта ўскалыхнула людзей. Памятаеш тыя першыя мітынгі? Без гэтага людскога пад'ёму цяжка было б утварыць БНФ. Трагедыя Курапатаў не меншая, чым хатынская. Яна павінна і будзе асэнсоўвацца пакаленнямі, гісторыяй. Як укрыжаванне Хрыста. Бязвінная кроў не знікае бясследна. Яна нараджае пакуты сумлення. Развагі пра тое, як жыць. Але першае, пра што я мару, каб Курапаты нарадзілі гэтыя пакуты сумлення.

-- Вы сумясцілі ў адной кнізе і справаздачу, і літаратурны твор.

-- А чаму не? Кніга як чалавек, а чалавек сумяшчае ў сабе ўсё. І боль гісторыі яшчэ не пакінуў наш народ.

***Зміцер ЛУКАШУК, "БМ"***

ДЫСКУСІЙНЫ КЛУБ

# МІТУСНЯ З ВАЛТУЗНЁЙ

ЗВЯЗДА

Чым больш я старэю, тым часцей пераглядаю свае жыццёвыя устаноўкі. Неяк спакваля я пачаў адчуваць, што рэчы, якія яшчэ ўчора з'яўляліся для мяне сапраўднымі, губляюць сваё першапачатковае значэнне. Нават нацыянальная арыентацыя неўпрыкмет стала другараднай справай. І гэтаму ў значнай меры спрыялі палітычныя і сацыяльныя ўзрушэнні, якія адбыліся ў апошнія гады ў нашым грамадстве.

Сёння нам яшчэ цяжка пазбавіцца ад путаў таталітарнай сістэмы, і яны, хоць і разарваныя, яшчэ доўга будуць перашкаджаць нам рухацца.

Артыкул Л. Баршчэўскага («Звязда» № 157, 30 ліпеня 1994 г.) яшчэ раз пацвярджае, што калі ўчора ты быў савецкім, то пры ўсім тваім жаданні сёння не здолееш выступіць у зусім новай іпастасі. І хаця час на прасторах былога СССР зрабіў імклівы рывок наперад, псіхалогія савецкага чалавека яшчэ доўга застанецца савецкай.

У свой час я надрукаваў некалькі артыкулаў, у якіх крытычна выказаўся ў адрас старшыні партыі БНФ З. Пазняка. Л. Баршчэўскі, а раней і С. Навумчык выступілі са сваімі публікацыямі ў абарону лідэра франтаўскай партыі. Справа звычайная, калі б размова вялася па сутнасці. Але Л. Баршчэўскі не выказаўся ні па адной крытычнай заўвазе з майго боку. Замест таго каб сказаць, што вось тут Свістуновіч падтасаваў факты, а тут дапусціў неаб'ектыўнасць, а вось тут узвёў паклёп на З. Пазняка, Л. Баршчэўскі ўсё звёў да нейкага бытавога ўзроўню. Няўдзячны Свістуновіч пакрыўдзіўся на добрага і спагадлівага Пазняка.

Мне не хацелася б займацца ўспамінамі, але прыходзіцца, бо Л. Баршчэўскі даволі вольна абыходзіцца з фактамі. Калі ўжо пісаць, то трэба мець дакладныя звесткі. Л. Баршчэўскі паведамляе, што пасля інцыдэнту ў Баранавічах З. Пазняк вазіў мяне... на судова-медыцынскую экспертызу, «прабіваў справу ў судзе...» Дакладваю пану Баршчэўскаму, што «прабіваць справу» не прыйшлося, бо суда не было. Следства ўсё спусціла «на тармазах». На медэкспертызу я ездзіў з А. Марачкіным. Але пра гэта дастаткова.

А вось чаму я парваў з БНФ, то тут можна выказацца больш шырока. Хаця тое, што я адышоў ад фронту, папракаў не выклікае, былых паплечнікаў абураюць мае публікацыі. Мне прыйшлося выказацца і таму, што ўсе тыя ляпсусы, якія дапускалі франтаўскія кіраўнікі і актывісты, аўтаматычна мелі адносіны і да мяне. Хіба ж не я ўваходзіў у аргкамітэт па стварэнню БНФ «Адраджэньне»? А на мясцовым узроўні прыходзілася арганізоўваць і праводзіць розныя франтаўскія акцыі. І няглядзячы на тое, што я спыніў усякую дзейнасць і ціха адышоў ад франтаўскіх спраў, для людзей я заставаўся ўсё тым жа бэнэфаўцам. Тут я не магу пагадзіцца з Галінай Айзенштат, якая гаворыць, што гэта фронтаўскія разборкі, бо калі так разважаць, то ўсё тое, што робіцца на прасторах СНД, усяго толькі камуністычныя разборкі. Між тым у дэмакратычным грамадстве выхад з партыі, нязгода з партыйнымі лідэрамі і іх крытыка — справа звычайная. У нас жа ты адразу становішся ворагам у вачах былых паплечнікаў. І ўся твая крытыка, нават самая канструктыўная не бярэцца да ўвагі. Усё як у эпоху развітога камунізму: іншадумцаў у нас не павінна быць.

І галоўная прычына, чаму я адышоў ад партыі фронту, у тым, што БНФ стаў кансерватыўнай арганізацыяй, няздольнай вырашыць тыя задачы, якія перад сабой паставіў. Ведучы бескампрамісную барацьбу з КПБ-КПСС, фронт неўпрыкмет запазычыў у гэтай камуністычнай структуры многія метады і звычкі. А лідэр БНФ паказаў сябе, як тыповы генсек. Апошнія словы за ім, яго думка правільная, крытыка не дапускаецца і г. д. Вакол З. Пазняка згрупаваліся людзі, якія ні ў чым не пярэчылі лідэру, і любая яго прапанова на Сойме атрымлівала падтрымку. Ды і Сойм практычна існаваў, каб прыдаць законнасць дзеянням З. Пазняка. Аднойчы на Сойме разглядалі варыянты гімна Беларусі. Лідэру франтаўскай партыі быў дужа даспадобы гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», і ён настойвае, каб за гэты варыянт прагаласавалі. І прагаласавалі. А гімн не вытрымлівае аніякай крытыкі. Учарашні дзень. Палітычны лозунг. Дык не, заканчваецца канферэнцыя ў Доме літаратара, на сцэне ўстае з-за стала лідэр фронту і даволі па-піянерску пачынае спяваць «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», а ў зале таксама ёсць аднадумцы — падтрымліваюць, хаця большасць прысутных маўчыць. А глядзець на ўсё гэта — тамленне духу. Няўжо за савецкі час не здаволіліся лозунгамі, транспарантамі, заклікамі. Дыхайце, панове, спакойна! Вы паставілі перад сабой высакародную мэту — зрабіць Беларусь цывілізаванай еўрапейскай краінай. Дык самі пакажыце прыклад. Але нічога, відаць, не мяняецца ў псіхалогіі франтаўскага кіраўніцтва, бо калі глядзіш на каляровы плакат былога кандыдата ў прэзідэнты, на якім ён стаіць на фоне дзяржаўнага сцяга, са значком-сцяжком на штрыфелі пінжака, ды яшчэ пры гальштуку з беларускім арнаментам, хочацца сказаць: «Больш цывілізацыі, менш фетышызацыі».

Мяне часта стамляла тая «цягамоціна», што адбывалася на Соймах БНФ. У перыяд станаўлення фронту, я рэгулярна прыязджаў на яго пасяджэнні; а затым паступова цікавасць да іх прапала.

Бывала, шэсць гадзін патраціш на дарогу да Мінска, і толькі для таго, каб паслухаць, як Вячорка дзве гадзіны будзе расказваць пра сітуацыю на «спрадвечных беларускіх землях Смаленшчыны і Браншчыны».

На адным з Соймаў я прапанаваў правесці акцыю прыняцця прысягі. З прапановай усе пагадзіліся. А ў хуткім часе стала вядома, што гэтае мерапрыемства набыло ярка выражаную палітычную афарбоўку, яго «прышпілілі» да вядомай бітвы пад Оршай. На чарговым пасяджэнні Сойма два яго члены прыцікаюць мяне да сцяны.

— А ты чаму не прыняў прысягу?

Ужо прагледзелі спісы і выявілі ненадзейных!

А на перыферыі ўсё прасцей.

Прыходзілася бачыць, як мясцовы актывіст БНФ у цэнтры горада пачаў даказваць сваю праўду п'янаму. Праз хвіліну ўжо цяжка было разабраць, хто з іх п'яны, а хто цвярозы. Абодва крычаць і размахваюць рукамі. Праходзяць людзі і аглядваюцца...

І гэта твой аднадумца, паплечнік па барацьбе...

Не хачу сказаць, што ў франтаўскай партыі няма разумных і далікатных людзей. Ёсць, але яны трымаюцца неяк у цяні, альбо адышлі ад палітыкі і перажываюць за ўсе няўдачы фронту.

Станаўленне дэмакратыі і цывілізаваных адносінаў паміж людзьмі — справа не аднаго года і не аднаго пакалення.

Пакуль існавала КПСС, З. Пазняк выдатна выконваў ролю лідэра, а вось калі партыйная наменклатура пакінула гаркомы і абкомы і перайшла ў Саветы і камерцыйныя структуры, ён, на мой погляд, не здолеў змяніць тактыку барацьбы. І сёння, калі да ўлады прыйшлі новыя людзі, антыкамуністычныя выпады супраць урада будуць неэфектыўнымі. Хаця тут зноў дапускаецца тактычная памылка. Пасля першага тура выбараў лідэр фронту паспешліва заявіў, што Кебіч і Лукашэнка адно і тое ж. А значыць, пры ўладзе зноў камуністы, ці камунафашысты, як пісалі некаторыя газеты пасля святкавання Дня незалежнасці. А калі так, то і метады барацьбы за ўладу застаюцца тыя ж, правераныя і адпрацаваныя.

Безумоўна, калі б акружэнне лідэра фронту думала інакш ці глядзела б на некаторыя рэчы рэальна, то З. Пазняку прыйшлося б дзейнічаць на палітычнай арэне больш асцярожна і разважліва. І тут хочацца правесці паралель. Існуюць дзве думкі наконт караля і світы. Па версіі адных — світа робіць караля, а на думку другіх — кароль робіць світу. Першы варыянт найбольш адпавядае беларускаму прэзідэнту і яго камандзе. Мы бачым, што прэзідэнт пакуль яшчэ не дапусціў яўных палітычных «праколаў», а, наадварот, многае гаворыць на яго карысць. І тут не можа абысціся без уплыву на прэзідэнта яго каманды. Лідэр фронту падабраў сабе «світу» сам. А ў ёй, як правіла, асобы з духам палітбюро ЦК КПСС.

З артыкула Л. Баршчэўскага гэта асабліва добра відаць. Успомнім, як падпісвалі свае публікацыі «сапраўдныя» камуністы. Пад прозвішчам абавязкова рабілася прыпіска: «член КПСС з 19...». І чым большым быў партыйны стаж, тым больш важкай лічылася публікацыя. Вось і Баршчэўскі ўжо падпісвае: «сябар БНФ з 1989 г.». Важкі аргумент. Старэйшы член партыі. Амаль што з дня заснавання фронту.

І зноў жа аўтар паведамляе «...што БНФ хрысціянскіх запаведзяў не парушаў і не парушыць...» А ці не нагадвае гэта новы варыянт маральнага кодэкса, носьбітам якога аб'яўляецца партыя фронту. А ці не пераклікаецца гэта з вядомай усім нам цытатай «...ум, честь и совесть нашей эпохи»?

КПСС таксама нічога не парушала. А вось члены партыі яшчэ як парушалі. Гэтак жа і БНФ. Шыльда застаецца шыльдай, а вось тыя, хто прыйдзе пад ёй да ўлады, звычайныя людзі, а не святыя. І можна падумаць, што не будзе карупцыі.

З. Пазняк па прычыне свайго характару і сямейнага стану дзяржаўнага не кране, а яго акружэнне і нізавыя структуры і хабар браць будуць, і ў дзяржаўную кішэню залезуць. І тут ніякія дэкларацыі і законы не дапамогуць.

Знаходзячыся па-за ўладай, можна і пафіласофстваваць пра ўсё, у тым ліку і пра хрысціянскія запаведзі, а калі прыходзіш да ўлады і на табе ляжыць цяжар адказнасці і штодзённых клопатаў, то хрысціянскія запаведзі пакідаюцца апазіцыі.

Але які адчуваецца бальшавіцкі напор у наступных выказваннях Л. Баршчэўскага: «...БНФ застанецца самім сабою. Яго не разбіць зманлівымі прапановамі... БНФ не быў прадажным і не стаў ім...» Ну проста вытрымкі з камуністычнай прэсы, толькі БНФ трэба замяніць на КПСС. А іменна гэтага і баяцца людзі.

Калі гаварыць пра нашумелы артыкул З. Пазняка «О русском империализме», то гэтая публікацыя на рускай мове (што нетыпова для З. Пазняка) з'явілася ў беларускай газеце падчас прыезду амерыканскага прэзідэнта на Беларусь. Пераказалі змест гэтага артыкула Б. Клінтану ці не, мне не-вядома, хаця для амерыканцаў у ім нічога новага няма. Яны добра ведаюць, што такая дзяржава, як Расія, не можа існаваць ізалявана і не мець сваіх інтарэсаў у іншых краінах, тым болей у рэспубліках былога СССР. Ды і каму невядома, што свабодная Амерыка — тая ж імперыя, толькі ў дэмакратычнай хламідзе. І яе жыццёвыя інтарэсы не абмяжоўваюцца толькі «ближним зарубежьем» Лацінскай Амерыкі, а знаходзяцца на ўсіх кантынентах зямнога шара. Гэта па-першае, а па-другое, выбары прэзідэнта Беларусі паказалі, што без падтрымкі ва ўсходніх абласцях прыйсці да ўлады праблематычна. І ў тым, што на ўсходзе Беларусі З. Пазняк пацярпеў поўнае паражэнне, вінаваты яго неабдуманыя выказванні і публікацыі на расійскую тэматыку. І можна не сумнявацца, што калі б прэзідэнтам стаў лідэр фронту, то пайшоў бы на паклон да Б.

---

**Пісаў я гэтыя вершы больш як паўвеку назад, для сябе, у розныя гады, больш усяго ў палоне. Пра жыццё палонных мала што зьяўлялася ў прэсе, калі не ўспамінаць сухія цыфры статыстыкі...**

**Мікола Латушкін**
**Чыкага**

## *Вершы розных часоў...*

****

Запяю я песьню, каб яна ляцела
Звонкім пералівам – хваляю марской
Каб усё, што ў сэрцы маім набалела
Стала зразумелым для душы другой.
Што даўно ня бачу роднае старонкі,
Любай Беларусі – шчасьця для мяне.
Дык няхай-жа песьні гэтай голас звонкі
Ад мяне з чужыны ёй паклон нясе.
Каб ад гэтай песьні гукі засьпявалі
У душы гаротных – дарагіх бацькоў,
А ў дзяўчыны мілай радасьць выклікалі
І надзею хутка нам сустрэцца зноў!

Рыга, палон 1942 г.

****

Поўдзень. Сьпякота. Зямля спачывае.
Стомлены конік прыціх у траве.
Толькі дарогай хтось пыл падымае,
Ціха качаецца, ледзьве плыве.

Ён не адзін там, іх – тысячы, болей...
Потам абліты ледзь ногі нясуць,
З болем на сэрцы, з праклятаю доляй –
Ведаць ня ў сілах, куды іх вядуць.

Многія падаюць, страціўшы сілы,
Вочы ня бачаць, і слабасьць у нагах.
З кожнай хвілінай гусьцеюць магілы...
Цяжка, ох, цяжка прыгадваць той шлях,

Шлях па якім скрозь рассыпаны косьці
Тысяч палонных – нямецкіх рабоў,
Шлях па якім крочыў я ў маладосьці, –
Прагнула сьмерць піць маю кроў...

Лепей ня ведаць пра гэта, ня чуць,
І не пытайце мяне вы пра тое,
Як у палоне за дротам жывуць,
Дзе я скалечыў жыцьцё маладое.

1942 г.

****

Добры дзень, дарагая матуля,
Як жывеш ты, знаходзішся дзе?
Колькі год аніводная чутка
Не даходзіць ка мне ад цябе...

Веру: дзесьці мяне ты чакаеш,
Ьо ня гінуць усе на вайне,
І ў думках сябе пацяшаеш,
Што вярнуся яшчэ да цябе...

І настане хвіліна сьвятая,
Як жывым я вярнуся дамоў,
Як табе, дарагая матуля
Раскажу, што было дзе са мной.

Шмат раскажу, шмат давядзецца
Даведацца пра маё жыцьцё,
І ад радасьці моцна заб'ецца
Мацярынскае сэрца тваё!

1943 г.

### ЗІМА

Жутка, холадна наўкола,
Напаўнае сэрца жах,
На палёх усюды гола –
Ўсё у сьнежных дыванох.

Лес стаіць у задуменьні
Быццам сьнежны вартавы,
Часам з ветрам у нецярпеньні
Загамоніць, як жывы.

Часам крыўдна загалосіць –
Сэрца жалем абальле,
Быццам літасьці ён просіць,
Быццам скардзіцца зіме.

Бо жыцьцё яму няміла
Ў цяжкім сьнежным дыване
Калі у жылах кроў застыла,
Калі ў сэрца мароз б'е!

Мароз лускае, гуляе –
Рэхам гутарку вядзе
Ў небе з зоркамі іграе,
Сьлед свой на усё кладзе.

А як пусьціцца па полі
Сьнег вятрамі падымаць,
Так завые, – бы ў няволі
Клетку зьвер пачаў ламаць.

Забяжыць часамі ў вёску –
Па заўголлю, як зладзей,
Патуляецца, пасьвішча
Дый на ўцёкі, ліхадзей.

Свой парадак ён наводзіць –
Зямлі новы дае твар,
І ніхто яму ня шкодзіць,
Бо зімой ён – гаспадар!

1938 г.



Ельцына, а калі б пачаў «качаць права», то з першымі маразамі закончылася б ягонае прэзідэнцтва. Паставіць перад сабой мэту, нават такую высакародную, як адраджэнне Беларусі, яе культуры, мовы, зрабіць краіну незалежнай і квітнеючай эканамічна і нават распрацаваць план, як гэта зрабіць, — справа адносна нескладаная. Але тут крыху гумару.

І спытала Сара:

— Рабіновіч, у чым розніца паміж словамі «Бісмарк» і насмарк?

— Калі я строю планы, то ва мне прачынаецца Бісмарк, а калі я гэтыя планы спрабую рэалізаваць, у мяне пачынаецца насмарк.

— Рабіновіч, скажы папулярна!

— Сара, кажу папулярна.

Што сказаў Рабіновіч — няважна, ясна адно, што ад планаў, нават добра распрацаваных, да іх ажыццяўлення — вялікая адлегласць, і часта планы так і застаюцца планамі.

І хаця Л. Баршчэўскі сцвярджае, што З. Пазняк «...не дурняў вакол сябе сабраў», аб'яўляць фронтаўскую партыю адзінай выратавальніцай Беларусі даволі саманадзейна. А хто не згодзен з гэтым, трапляюць у стан праціўнікаў. Вунь і аўтар публікацыі «Плюючы ў свой калодзеж» успомніў В. Ганчара і Д. Булахава. Не падтрымалі яны ў свой час фронтаўскую акцыю і ўжо ворагамі сталі. Хаця мне цяжка ўявіць, што гэтыя дэпутаты мітусіліся б дзесьці ў апазіцыі і слухалі б «отцовские наставления» лідэра фронту.

І ўсё ж нелагічна атрымліваецца. Калі выказаў крытычныя заўвагі — то гэта аплёўванне БНФ і яго лідэра. І што самае цікавае, гэта пляванне ў свой жа калодзеж, з якога яшчэ давядзецца піць, — напамінае Баршчэўскі. Заўсёды думаў, што я п'ю ваду з калодзежа, імя якому — Беларусь. А вось жа атрымліваецца, што гэты калодзеж ужо прыватызаваны, і колькі каму выпіць, будзе вырашаць партыя фронту.

Не трэба каля калодзежа мітусіцца. Права выпіць вады мае кожны. Нават той, хто калісьці зрабіў глупства і плюнуў у калодзеж. Галоўнае, каб зразумеў сваю памылку.

«Новая ўлада... выразна бачыць: на будучых выбарах галоўная перашкода — той самы БНФ, той самы Зянон Пазняк», — пачынаецца артыкул Л. Баршчэўскага.

Тут амбіцыі бяруць верх. Не партыя БНФ — пагроза новай уладзе, а эканамічны развал, які дастаўся у спадчыну ёй. Бо эканоміка ў першую чаргу робіць асноўны ўплыў на расстаноўку палітычных сіл у большасці краін свету.

І на заканчэнне хачу сказаць Л. Баршчэўскаму, свайму асабістаму даўняму і добраму знаёмаму. Жыццё рухаецца сваім шляхам, сваім напрамкам. І гэты рух непадуладны ніякім партыям і групоўкам. І тыя шматмільённыя партыі, якія пажадалі падагнаць жыццё пад свае ідэі, пацярпелі поўнае фіяска. І не трэба грандыёзных планаў, бо, чым яны больш маштабныя, тым больш разыходзяцца з рэальным жыццём.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

---

(Пачатак на стар. 1-ай)

якім былі выдадзены пасведчанні ініцыятыўнай групы Лукашэнкі, вельмі малая, бо ў іх няма кансалідуючай ідэі.

**-- Але мяркуецца, што непапулярныя меры па рэарганізацыі эканомікі адштурхнуць прыхільнікаў А. Лукашэнкі, бо іх прыхільнасці напрамую залежаць ад запаўняльнасці страўніка. Тым больш, што былая «партыя ўлады» не збіраецца здаваць пазіцыі...**

— Цяперашняе беларускае грамадства адметнае тым, што ў нас няма двухполюснай грамадскай думкі. Ну вызначце мне, калі ласка, пазіцыю Лукашэнкі? Яна адметная, гэта зразумела, але пакуль канчаткова не акрэсленая. Ён гатовы да дыялогу з усімі сіламі грамадства, а, скажам, сп. Кебіч і лоббі ВПК імкнуцца гэты дыялог парушыць, таму што перамовы Лукашэнкі з дэмакратамі— гэта для сп. Кебіча як «соль на рану». Мне здаецца, што на мяркуемых выбарах у Вярхоўны Савет гэта былая «партыя ўлады» будзе імкнуцца пабудаваць сваю праграму на крытыцы непапулярных крокаў прэзідэнта. Але, калі ў прэзідэнта хопіць цярпення, ён не пойдзе на эскалацыю канфлікту ні з левымі, ні з правымі.

**Рубрыку вядзе**
*"ЗВЯЗДА"* **Юрась КАРМАНАЎ.**

---

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
REPUBLIC OF BELARUS



ДЫПЛАМАТЫЧНЫ
ПАШПАРТ
DIPLOMATIC PASSPORT

ГЭТЫ ПАШПАРТ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ЎЛАСНАСЦЮ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
THIS PASSPORT IS THE PROPERTY OF THE
REPUBLIC OF BELARUS

D000073

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
REPUBLIC OF BELARUS

АД ІМЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗВЯРТАЕЦЦА З
ПРОСЬБАЙ ДА ЎСІХ АДПАВЕДНЫХ АСОБ
ПРАПУСКАЦЬ УЛАДАЛЬНІКА ГЭТАГА
ДЫПЛАМАТЫЧНАГА ПАШПАРТА ВОЛЬНА
І БЕСПЕРАШКОДНА, А ТАКСАМА
АКАЗВАЦЬ ЯМУ УСЯЛЯКАЕ
САДЗЕЙНІЧАННЕ.

D 000073

IN THE NAME OF THE REPUBLIC OF BELARUS
THE MINISTRY OF FOREIGN AFFAIRS OF
THE REPUBLIC OF BELARUS REQUESTS
ALL THOSE WHOM IT MAY CONCERN
TO ALLOW THE BEARER OF THIS DIPLOMATIC
PASSPORT TO PASS
FREELY AND WITHOUT HINDRANCE
AND TO AFFORD THE BEARER
EVERY POSSIBLE ASSISTANCE. 1

Публікуем тры больш характэрныя старонкі з новага беларускага дыпляматычнага пашпарта...

Васіль БЫКАЎ

# НІЧОГА, АПРОЧ ЦЯРПЕННЯ

**ЛіМ.**

Наіўна меркаваць, што мы ўступілі ў посттаталітарны, перабудовачны час, што настае царства дэмакратыі. Настае царства парадоксаў, вяртаецца наша звыклае царства абсурду — гэта бясспрэчна. Дэмакратыя для нас па-ранейшаму terra incognita — каму яна патрэбна?

На Захадзе — іншая справа, там яна патрэбна ўсім. Дэмакратыя толькі там і функцыянуе, дзе яна патрэбна ўсім. Дзе грамадства не можа існаваць без дэмакратычнай атмасферы, дзе без яе яно ператвараецца ў сваю процілегласць.

У нас жа ўсё наадварот.

Больш за 70 год мы жылі ў алагічным, перавернутым, прывідным свеце ілюзій, і як ні дзіўна, перасталі яго заўважаць, мы да яго прызвычаіліся, прыстасаваліся да яго фізічна і маральна. Ён быў нам чужы, страшны, звыродлівы, але іншага мы не ведалі. Ад іншага мы былі адгароджаны жалезнай ракетна-ядзернай заслонай. Але галоўнае — той лад нас карміў. Не надта каб сытна, але для галодных хапала. І не адбіраў надзеі. На тое, што калі-небудзь ён скончыцца, перародзіцца і вызваліць нас ад сваёй няволі, якая была дэмагагічна названа «развітым сацыялізмам». Надзея — вялікая рэч, як вядома, яна тоіць у сабе асаблівую наркатычную спакусу, якая аднолькава можа служыць і Богу, і Д'яблу. Нашу цярплівую надзею ахвотна падтрымлівала марксісцкая ідэалогія, гуманістычнае мастацтва і нават пагарджаная Хрыстова вера. Але вось час прабіў. І ўсё развеялася ў дым, растала, бы ранішні туман. Эканоміка ў руінах, суверэннасць прададзена, дэмакратыя збанкрутавана. Камуністычны монстр нядоўгага уік-энду прыступае да свае руціннае працы — умацавання таталітарызму. Чарговая спадзяванка, якую ён нам прапануе цяпер — інкарпарацыя ў імперыю і агульная рублёвая зона. Зноў «зона». Слова, што мае розныя адценні, але заўсёды аднолькавы сэнс.

Ва ўсходніх баявых двубоях ёсць прыём: выпаду саперніка прыдаць напрамак працягу і нейтралізаваць яго. Пасля жорсткай барацьбы з ворагамі, паміж сабой і грамадзянамі — барацьбы, якая хоць і прынесла ім перамогу, але, мабыць, не дала поўнага задавальнення, яны прынялі іншую тактыку. Навошта вынаходзіць таталітарны веласіпед, калі можна перасесці на веласіпед дэмакратычны? І яны пераселі. У мэтах стабілізацыі і нацыянальнай згоды. Мабыць, няма ў сучаснай дэмакратыі такіх максімаў, якія нельга было б ператварыць у іх процілегласць.

У тым ліку і самае папулярнае — правы нацыі на самавызначэнне, нязрушнасць сучасных межаў, правы чалавека. Людзі краіны, дзе дзесяткі год тыя правы былі нічога не вартыя і валяліся пад нагамі, раптам зайшліся ў лямантце аб абароне тых правоў у чужых дзяржавах. Як нядаўна яшчэ лямантавалі аб дыскрымінацыі чарнаскурых на далёкіх чужых кантынентах. Па-ранейшаму яны поўныя рашучасці не аддаць ні пядзі ўласнай закінутай зямлі, але не супроць пры выпадку адцяпаць колькі-заўгодна чужой. І ўсё пад прыкрыццём самых дэмакратычных прынцыпаў, ад міратворчых да святога права нацыі на самавызначэнне. Драпежныя антычалавечыя пастулаты зрабілася модным выводзіць з евангельскіх запаветаў Хрыста, прагматычна браць напракат у царквы, да вяшчай радасці царкоўных іерархаў, якія ўспрымаюць тое ўсур'ёз. І ўсё старанна канстатуецца. Яны зрабіліся зайздроснымі прыхільнікамі законнасці, якую самі для сябе і ствараюць, як правілы для гульні ў сваю карысць. І з сапраўды паліцэйскім спрытам будуюць жалезабетонную «прававую» дзяржаву. Здаецца, пры адпаведнай згодзе сусветнай супольнасці, якая канечне ж не будзе пярэчыць супраць «дэмакратычных» пераўтварэнняў.

У такіх умовах што можа літаратура, гэтая марная словатворчасць, пазбаўленая друкарскага станка, з эканамічнай пятлёй на схуднелай плебейскай шыі? І Гутэнберг з Марконі, разам з Паповым і Фёдаравым, перастаюць ёй служыць — яны служаць іншым. Тым, каму звыкла служыць навука, эканоміка і палітыка. Мабыць, тое надта прагматычна, бо ў іхніх руках не толькі казна, права і паліцыя, але і шматгадовая картатэка КДБ, якая, бы алмазны фонд, старанна беражэцца ў маскоўскіх сейфах. З яе дапамогай вельмі эфектыўна рэгулююцца палітычныя працэсы ў краінах блізкага зарубежжа.

Мы працягваем жыць у посттаталітарным грамадстве, па ранейшай таталітарнай мадэлі і яго абсурднай маралі. Іншае мы не ведаем. Хрысціянская мараль адаптавана, перакручана і скампраметавана імі. Зрэшты, да гэтай кампраметацыі прыклалі руку і дэмакраты, г. зн. тыя ж перафарбаваныя камуністы. Хоць шмат якія з іх і не перафарбоўваліся, трошкі перайначылі свае абрэвіятуры. Сыдзе і так. Народ наш талерантны, ён усё прыме.

Але што рабіць тым, што на зыходзе XX стагоддзя памкнуліся людзьмі назвацца? Рэвалюцыі, путчы і кроў — здаецца, гэта сапраўды кепская справа. Але што ж добра? Як быць з сапраўднай дэмакратыяй, без якой няма шляху ў будучыню? Ужо зразумела, што ў барацьбе з таталітарызмам дэмакратыя — дужа слабы сродак. Сродак неадэкватны. Але які сродак адэкватны? Нацыяналізм нават самы ўмераны абылганы імі і выклікае вялікі сумнеў. Не ва ўсіх, зразумела. Тыя, што яго абылгалі, цяпер самі кінуліся ў яго выратоўчыя абдымкі. Але самім можна, яны заслужылі. Іх крыўдзілі, і ў іх скончылася цярпенне. А вядома, калі канчаецца цярпенне, тады ўсё можна. Можна ўводзіць войскі (калі тыя яшчэ не ўведзены) альбо ніяк іх не выводзіць, штурмаваць танкамі нацыянальнае тэлебачанне, секчы сапёрнымі лапаткамі жанчын. Інспіраваць «самавызначэнне» ў складзе трох карлікавых раёнаў ці аднаго камфортнага паўвострава ля цёплага мора. Некалі ў вядомага нецярплівуца скончылася цярпенне, і ён распачаў Другую сусветную вайну. Чым гэтыя горш?

Але як быць, калі, апроч бясконца доўгага цярпення, нічога болей няма? Ні энерганосьбітаў (на якія пакрыўдзіў нас Бог), ні ўласнай палітыкі ў нашага камуністычнага кіраўніцтва, ні нават маралі, якую адабралі і спаганілі тыя ж. Адзін толькі таталітарна-імперскі беспрыдзел над дзесяцімільённым народам. Атручаным камуністычнай ідэалогіяй, з абрабаванай культурай, амаль без роднае мовы, з ампутаванай нацыянальнай самасвядомасцю. І да таго ж густа пасыпаныя радыяцыйным чарнобыльскім попелам. Ці да дэмакратыі тут? Яму б неяк выжыць...

---

*Паважаныя суайчыннікі!*

*У жніўні 1996 года ў Атланце адбудуцца XXVI Алімпійскія гульні. Упершыню ў летніх Алімпійскіх гульнях будзе прымаць удзел нацыянальная каманда Рэспублікі Беларусь.*

*Цяпер Нацыянальны Алімпійскі Камітэта Беларусі праводзіць работу па прыцягненню шырокіх кол грамадства, спонсарскіх сродкаў для стварэння спартсменам і трэнерам неабходных умоў для якаснай падрыхтоўкі да Алімпійскіх гульняў. Калі ў Вас ёсць жаданне і магчымасць дапамагчы спартсменам Беларусі дастойна прадставіць нашу Бацькаўшчыну на Алімпійскіх гульнях у ЗША, Вы можаце накіраваць свае прапановы ў Пасольства або звязацца непасрэдна з Дзяржкамспортам Беларусі:*

***Рэспубліка Беларусь, 220600, г.Мінск,***
***вул. Кірава, 8/2.***
***Тэл. (0172)27-72-37, 26-10-33.***
***Факс: (0172)27-61-84.***
***Тэлекс: 252175 Атлет.***

***Пасольства Рэспублікі Беларусь***

---

## Рэзаць танкі дапамогуць амерыканцы

**Яшчэ 99 парэзаных зваркай танкаў і баявых машын пяхоты папоўнілі спіс выведзеных з баявога строю на Барысаўскім танкарамонтным заводзе ў адпаведнасці з Дагаворам па звычайных узброеных сілах у Еўропе (ЗУСЕ).**

Пасля ратыфікацыі беларускім парламентам дагавора па ЗУСЕ, падпісанага ў Парыжы яшчэ камандай Міхаіла Гарбачова, Беларусь, пераадольваючы велізарныя эканамічныя цяжкасці, але цвёрда і няўхільна захоўваючы ўмовы пагаднення, ужо давяла колькасць знішчаных браніраваных машын да 2 тысяч. Усяго трэба будзе скараціць 3605 адзінак. Пры гэтым вельмі зацікаўленыя ў знішчэнні бранявога "кулака" былога СССР краіны Захаду калі і аказвалі беларускім ваенным дапамогу ў скарачэнні, то ў памерах хутчэй сімвалічных у параўнанні з сапраўднымі затратамі. Цяпер лёд, як быццам, крануўся. На праведзеных на мінулым тыдні ў час візіту амерыканскай дэлегацыі ў Мінск перагаворах заключана пагадненне, што амерыканскі бок паставіць на завод у Барысаў сучаснае абсталяванне для экалагічна чыстай ліквідацыі рэшткаў бранятэхнікі на суму 5 мільёнаў долараў і навучыць рабоце на ім беларускі персанал.

**Леанід ТРАЦЭЎСКІ,**
**Белінфарм.**

"Народная Газэта"

**Міхаіл ЧЫГІР:**

Народная газета

# “Больш за ўсё я веру ў самога сябе і сяброў, якія мяне акружаюць”

**Кіраўнік урада расказвае пра сваю сям'ю, пра сябе, дзеліцца думкамі аб Беларусі, шляхах выхаду з крызісу, аб ролі інфармацыі.**



**Мая першая сустрэча з прэм'ер-міністрам адбылася вечарам у мінулы чацвер. Яго паплечнікі паглядалі на гадзіннік і скоса пазіралі на мяне. Ля пад'езда Дома ўрада ўжо стаялі машыны, на якіх кіраўніцтва павінна было ехаць у Заслаўе на чарговую сустрэчу з выканаўчым дырэктарам Міжнароднага валютнага фонду Мішэлем Камдэсю. Таму я паспеў задаць Міхаілу Мікалаевічу толькі некалькі пытанняў.**

**У пятніцу ў яго так і не знайшлося форткі. Дыялог быў прадоўжаны раніцай у суботу. Я задаваў яму пытанні, якія, спадзяюся, цікавяць вельмі многіх, каб пазнаёміць чытачоў з новым кіраўніком урада, з яго думкамі, меркаваннямі. Вось запіс гутаркі.**

## Пра сям'ю

**— Якая ў Вас сям'я?**

— Самая, можна сказаць, стандартная. Жонка і двое сыноў. Дваццаць і дзевятнаццаць гадоў.

**— Чым займаецца жонка?**

— Па адукацыі яна юрыст. Раней працавала ў гандлі, зараз — у камерцыйнай фірме.

**— Шмат зарабляе?**

— Як калі. Бывала, меней, чым я ў банку, а бывала, і больш.

**— Якая цяпер у Вас зарплата?**

— Яшчэ не ведаю. Былы Старшыня Савета Міністраў мяне папракаў, што зарабляў больш за яго. Так што, відаць, тут менш будзе.

**— Сыны, напэўна, вучацца?**

— Так. Старэйшы Аляксей займаецца на факультэце міжнародных эканамічных адносін у БЭУ, а малодшы Аляксандр — у Беларускім інстытуце правазнаўства.

**— Як Ваша сям'я праводзіць вячэрні час?**

— Я, як правіла, заняты на рабоце. Жонка — вялікі аматар дачнага ўчастка. Атрымала шафёрскія правы, сама любіць ездзіць на дачу і працаваць там.

**— Значыць, машына ёсць?**

— Так. “Дзевятка”.

**— Даўно яна ў Вас?**

— Гады чатыры.

**— Дача вялікая?**

— Шэсць сотак. Акрамя яе немалы ўчастак у маці. Яна жыве ў вёсцы. Узрост — 83 гады. Так што прыходзіцца дапамагаць.

**— Далёка?**

— У Капыльскім раёне.

**— Ці ёсць у Вас якія сямейныя традыцыі?**

— Раней выхадныя дні праводзілі ўсёй сям'ёй альбо на дачы, альбо ў вёсцы. Гэта былі прыемныя гадзіны. Дзеці цягнуліся да працы. Цяпер яны спрабуюць адысці ад гэтага. Прыходзяць родзічы ў госці альбо намячаюцца іншыя сустрэчы, як сыны кажуць: “Старыя, у нас іншыя інтарэсы.”

**— Яны ведаюць беларускую мову?**

— Разумеюць. Вучылі ў школе. Але не карыстаюцца. Я, калі прыязджаю ў вёску, размаўляю па-беларуску.

## Пра сябе

**— Чым Вы захапляецеся?**

— Ёсць адно хобі, якім займаюся даўно і буду старацца знаходзіць час для яго і надалей, — гэта пчалярства. Я трымаю вельмі многа пчол.

**— А дзе?**

— Пасека ў вёсцы. Гэта мой любімы занятак, за якім ніколі не стамляюся, а толькі адпачываю.

**— Што-небудзь чытаеце?**

— З гэтым цяжкавата. Бывае, не застаецца часу нават на газеты. Калі надарыцца вольная хвіліна, люблю ўзяць у рукі творы Чэхава.

**— З беларускіх аўтараў каго чыталі?**

— У дзяцінстве захапляўся творамі Лынькова, Маўра, цяпер будзяць думку кнігі Панчанкі, Гілевіча, Брыля..

**— Якія тэлеперадачы любіце глядзець?**

— Рэдка гляджу тэлевізар. Часу няма. Уключаю, калі ідуць інфармацыйныя праграмы, каб быць у курсе спраў.

**— Якія канкрэтна інфармацыйныя праграмы?**

— Астанкіна, Расійскі канал.

**— Што скажаце наконт Беларускага тэлебачання?**

— Яго інфармацыйныя праграмы не адпавядаюць духу часу. Хацелася б, каб у іх было больш аператыўнасці, каб яны былі больш багатыя на інфармацыю, падцягваліся да расійскіх праграм.

**— Якія газеты чытаеце?**

— “Народную”, імкнуся праглядаць “Известия”. Яны цікавыя. Раней цікавай была і “Камсамолка”. А на рабоце ў нас быў такі парадак: памочнік падбіраў мне ўсе артыкулы з газет па банкаўскай справе, найбольш значныя — па эканоміцы. І я з імі знаёміўся.

**— У кіно ходзіце?**

— Быў вельмі даўно. У тэатрах бываю часцей. Побач з ранейшай работай “Вольная сцэна”, дык там нярэдка бываў. У нас склаліся з гэтым творчым калектывам добрыя сувязі.

**— У тэатры Янкі Купалы калі былі?**

— Каля года назад.

**— Вы верыце ў Бога?**

— Я б не сказаў, што я веру ў Бога. Але я вельмі паважаю людзей, якія вераць у яго, і лічу, што было б няправільна і несправядліва перашкаджаць ім у гэтым. Царква зрабіла вялікую справу ў выхаванні людзей. Адзін свяшчэннаслужыцель можа замяніць сотню паліцэйскіх. Трэба аддаваць належнае гэтым людзям, падтрымліваць іх. Не прыкмячаў, каб царква вучыла чамусьці дрэннаму альбо штосьці кепскае прапаведавала.

**— У што Вы верыце?**

— Больш за ўсё у самога сябе і сваіх сяброў, якія мяне акружаюць.

## Пра грошы

**— Чаму так падае наш “зайчык”?**

— Асноўныя прычыны наступныя. Першая — падзенне вытворчасці. Без добрай вытворчасці не можа быць стабільнай валюты. Другая — наша эканамічная палітыка. Спробы ўсіх падтрымліваць, не дапусціць банкруцтва прыводзілі да таго, што ўсім рабілася горш. Сістэма павінна падштурхоўваць чалавека да актыўнай работы, змагацца за выжыванне. Дапамагаць трэба пенсіянерам, студэнтам, навучэнцам — тым, хто мае патрэбу. Астатнія няхай самі думаюць пра сябе.

**— Як Вы ставіцеся да рублёвай зоны?**

— Вераснёўскі варыянт дамоўленасці з Расіяй падтрымліваю, а апошнія пагадненні — не. Дакумент, які прадугледжвае страту некаторых прыкмет дзяржаўнасці, відаць, павінен прымацца толькі пасля ўсенароднага абмеркавання. Не думаю, што прэм'ер ці Кабінет міністраў можа ўзяць на сябе такую адказнасць.

**— Вы ведаеце дзяржаву, якая не мае ўласных грошай?**

— Не. Такая дзяржава немагчыма ў прынцыпе.

**— Дык ці будуць у Беларусі свае грошы?**

— Яны ёсць у нас сёння. Ніішто не перашкаджае “зайчыку” поўнасцю выконваць усе функцыі грошай. Аснова, база для гэтага створаны. Не складае ніякай цяжкасці ўвесці грошы, якія лічыліся б больш паўнацэннымі. Але з імі адбудзецца тое ж, што і з “зайчыкамі”. Яны хутка абясцэняцца.

**— Але калі мы ўвойдзем у рублёвую зону, дык у нас не будзе сваіх грошай.**

— Гледзячы на якіх прынцыпах.

**— Такое жыццёвае пытанне, якое часта задаюць нам. Як сабраць грошы на кватэру ў нашай сітуацыі і куды іх можна ўкласці, каб не з'ела інфляцыя?**

— Для гэтага трэба ствараць умовы...

**— Я зразумеў, што іх яшчэ няма?**

— Няма. Сабраць грошы на кватэру немагчыма. Як робяць на Захадзе? Калі ты займеў 20 працэнтаў на кватэру, астатнія можна атрымаць у банку пад разумны працэнт. Але ў нас пакуль што і гэта зрабіць складана, бо вельмі высокая ступень інфляцыі.

**— Будаўнікоў не знойдзеш, інфляцыя ўсё з'есць, а ты працэнты аддавай.**

— Так. Ва ўмовах інфляцыі гэта зрабіць складана, але ў прынцыпе магчыма. Толькі трэба, каб была рэальная працэнтная стаўка. Мы ведаем, што раней людзі, атрымаўшы 300 тысяч крэдыту, пабудавалі салідныя катэджы. А што сёння тыя 300 тысяч? Ды яшчэ пад 5-працэнтную стаўку? Гэта, па сутнасці справы, была прамая дзяржаўная падтрымка ім.

**— Адкуль бяруць грошы тыя, хто будуе палацы вакол Мінска? Часткова вы ўжо адказалі — шляхам атрымання крэдытаў.**

— Так, перш за ўсё за кошт крэдытаў. Узяць крэдыт пад 5 працэнтаў гадавых — вельмі выгадна. Многія так рабілі. Сказаць, што яны парушылі нейкі закон, нельга. Але ўлічваючы, што адны іх атрымалі, а іншыя — не, дык адбылося, канешне, пераразмеркаванне сродкаў. Але банкі давалі грошы перш за ўсё тым, каго ведалі, каму верылі, хто меў салідную зарплату і мог разлічыцца.

## Такое можа быць толькі ў Беларусі...

Апошнім часам у Беларусі жыруюць малаадукаваныя ксяндзы з Польшчы. Такім “місыянерам” трэба адкрыта і сур'ёзна казаць: мы вас не выганяем, але проша вон... Місыянер, які ня ведае элементарнае розьніцы між веравызнаньнем і нацыянальнасьцю, працаваць у Беларусі не павінен...

Пачытайце, што піша такі “місыянер”:

> ...Przy kościele prowadzę parafię sam, która liczy prawie 4,000 osób, bo reszta należy do drugiej parafii, której kościół stoi na skraju miasteczka przy cmentarzu grzebalnym. Parafia centralna kościoła św. Michała obsługuje około 30 ulic i prawie tyle samo wiosek.
>
> Do najdalszej mam 17 km. i dojeżdżam rowerem. Parafianie katolicy czyli Polacy stanowią 82 proc., 15 proc. jest Białorusinów czyli prawosławnych, 4-ch Żydów, 2-ch greko-katolików i 1 mahometanin.
>
> Ludzie są dla księdza bardzo życzliwi, nawet Żydzi czy też mahometanin. Są jednak na ogół bardzo biedni i pozbawieni inicjatywy oraz rozpici.
>
> Gazety tamtejsze podawały, że dewaluacja rubla w roku 1993 wyniosła 1200 proc...

# *НЯМЕЧЧЫНА: новы сьвітанак эўрапейскага волата. Які ён?*

**Іван МАКАЛОВІЧ**

**Ці ведаем мы Германію?**

**Думаю, што не. А шкада.**

**Яна — еўрапейскі гігант. Па эканамічнаму патэнцыялу. Па культуры. Па духу. Па свайму ўплыву на ход сусветных працэсаў.**

**Гэта ўжо сёння. А заўтра? Як выказаўся адзін высокапастаўлены амерыканскі дыпламат у Боне, сёння ўжо мала хто сумняваецца ў тым, што яна хутка вырасце ў “гарылу-волата”, які будзе запраўляць справамі не толькі ў Еўропе. Сёлетнім летам прэзідэнт ЗША Біл Клінтан, адказваючы на пытанні журналістаў, адзначыў, што нават немагчыма гаварыць аб свеце, у якім Германія не будзе адыгрываць вядучую ролю.**

**Германія — наш сусед. Беларусь знаходзіцца ў зоне яе жыццёвых інтарэсаў. Незалежна ад таго, падабаецца гэта камусьці ці не. Гэта — рэальнасць.**

**У немцаў такая ж трагічная гісторыя, як і ў нас, беларусаў. Дзве спусташальныя вайны, фашызм... Паражэнні і прыніжэнні... І ўзлёты. Пасля кожнага падзення.**

**У сорак пятым і іх, і нашы гарады ляжалі ў руінах. Але сёння як далёка яны выскачылі наперад! Найперш — па ўзроўню жыцця. Таму хочацца спытаць у сябе, нашага кіраўніцтва, у кожнага: “Чаму ў іх такі прагрэс, а ў нас...”**

**Што ж гэта за загадкавая краіна, наша суседка Германія? Давайце паглядзім на яе праз чыстае шкло, а не ружовае ці зацемненае. За апошнія гады я некалькі разоў пабываў у Нямеччыне, наведаў яе буйныя і малыя гарады, сем'і, інстытуты, дзяржаўныя ўстановы, штаб-кватэры вядучых партый і фондаў... Яшчэ не ўпэўнены, што я ўжо змагу расказаць пра гэту краіну так, як гэта трэба зрабіць без аглядкі на розныя ідэалагічныя догмы. Ды адкладваць нельга. Мы павінны ведаць Германію. Дзеля лепшай сваёй будучыні.**

**Знаёмства з абрысамі нашай дактрыны нацыянальнай бяспекі паказвае, што людзі, якія яе распрацоўвалі і прымалі, маюць даволі цьмянае ўяўленне і аб самім паняцці “нацыянальная бяспека”, і аб тых працэсах, якія будуць дамінаваць у пачатку новага стагоддзя. Відаць, яны з'явяцца для іх такой жа нечаканасцю, як і пачатак мінулай вайны ці распад СССР.**

**Сёння ідзе фарміраванне новай еўрапейскай геапалітычнай сітуацыі наступнага стагоддзя. Заходнія аналітыкі аднадушныя: тон у ёй будзе задаваць Германія. Бачны пробліскі і новай сусветнай геапалітычнай панарамы. І ў ёй Германія — прэтэндэнт на першыя ролі.**

Народная газета

## Аб Беларусі

**— Як Вы думаеце, наколькі Вы знаёмы з сапраўднай гісторыяй Беларусі?**

— Я кепска знаёмы з ёю. Але мая пазіцыя такая. Як бы ні складваліся падзеі ў мінулым, як бы яны ні разгортваліся, усё гэта наша гісторыя, наш набытак.

**— Як Вы глядзіце на гісторыю як на навуку?**

— Яна павінна развівацца, аб'ектыўна адлюстроўваць тое, што было. Нельга з яе вырываць асобныя факты і выкарыстоўваць іх у плане абвастрэння адносін з суседзямі.

**— Беларускае тэлебачанне і некаторыя газеты пастаянна сцвярджаюць: "Вось да чаго давяла нас незалежнасць". Няўжо ўсе беды ад яе?**

— Не, вядома. Рабіць вывад аб тым, што эканамічныя сувязі разарваліся толькі з-за абвяшчэння незалежнасці, нельга. Вунь у Расійскай Федэрацыі яны таксама парушаны паміж рэгіёнамі і рэспублікамі, хоць яны і не сталі асобнымі дзяржавамі.

**— Вам не здаецца, што, можа, і добра, што некаторыя эканамічныя сувязі разарваліся?**

— Знікненне многіх з тых, што абслугоўвалі ваенна-прамысловы комплекс, адчувальнай шкоды эканоміцы не прынесла.

**— Якія, на Ваш погляд, лепшыя якасці нашага народа?**

— Працавітасць, сумленнасць, імкненне да паляпшэння дабрабыту.

**— А якія недахопы?**

— У апошні час назіраецца зніжэнне дысцыпліны, адказнасці, спроба шукаць вінаватых... У асобнай часткі насельніцтва не хапае настойлівасці, мэтанакіраванасці да паляпшэння ўласнага жыцця. Напэўна, гэта адбітак мінулага...

**— Былога выхавання? Калі за ўсіх думаў цар, генсек, дырэктар?**

— Так. На Захадзе кожны турбуецца за сябе, стараецца ўсімі сіламі. І дабіваецца добрых вынікаў.

**— Што павінна стаць галоўным у нашай унутранай палітыцы?**

— Упэўненасць у светлым будучым, барацьба за дасягненне лепшых вынікаў.

**— Я маю на ўвазе дзейнасць урада...**

— Уздым эканомікі. Гэта найпершая задача.

**— А ў галіне знешніх адносін?**

— Усталяванне добрых узаемаадносін з усімі суседзямі. На ўзаемавыгадных умовах.

**— У грамадстве нарастае неспакой за лёс дзяржавы. Яго выклікае палажэнне праекта дамовы з Расіяй, прадстаўленага з Масквы, аб двайным грамадзянстве. На думку многіх экспертаў, гэта будзе не на карысць беларусам. Калі мы зараз уводзім двайное грамадзянства з усімі высякаючымі адсюль правамі, дык, гавораць, маскоўскія бізнесмены скупяць усё ў нас.**

— Я не лічу, што двайное грамадзянства дазволіць замежнаму капіталу так развярнуцца ў нас. На яго шляху можна паставіць абмежавальнікі.

**— Калі будзе двайное грамадзянства, дык нічога мы не паставім.**

— А хіба так ужо дрэнна, калі да нас пойдзе капітал? З карысцю для рэспублікі.

**— А калі ўсё скупяць? Што застанецца нашым дзецям на гэтай зямлі? У расіян вунь якія капіталы! Не параўнаць з нашымі.**

— Усё не скупяць. Не трэба гэтага баяцца. У нас будуць падатковыя рычагі. Думаю, мы будзем гэта рэгуляваць.

**— Як Вы адносіцеся да ідэі нацыянальнага адраджэння?**

— Яго трэба падтрымліваць і развіваць.

**— І што тут, па-вашаму, галоўнае?**

— Перш за ўсё — сфера культуры. Урад павінен аказваць матэрыяльную падтрымку ёй.

## Пра выхад з крызісу

**— Урад рыхтуе праграму па выхаду з крызісу. У чым яе сутнасць і з чаго мяркуецца пачаць?**

— Пачнём з эканамічных механізмаў, якія разладжаны. Гэта цэнавая палітыка, фінансавая, крэдытна-грашовая. Будуць непапулярныя меры, але мы вымушаны скараціць дэфіцыт бюджэту, даць вытворцу нармальную цану, каб узняць актыўнасць яго, каб ён, так сказаць...

**— Быў зацікаўлены працаваць, вырабляць тавары?**

— Так.

**— Некаторыя сцвярджаюць: галоўныя намаганні трэба накіроўваць на эканоміку, а мова, духоўнасць пачакаюць. Іншыя, наадварот, даказваюць, што трэба пачынаць з адраджэння духоўнай спадчыны, маралі, тады і справы ў эканоміцы пойдуць лепей. Вы на чыім баку?**

— Гэтыя рэчы нельга разглядаць у разрыве. Яны павінны вырашацца паралельна.

**— Лепшымі розумамі свету ўжо распрацавана эканамічная мадэль на бліжэйшыя пятнаццаць гадоў. Яна ўзята кіраўніцтвам вядучых краін за аснову ў сваёй рабоце. У ёй акрэслены 10 новых рынкаў, 10 краін, якія, як чакаецца, зробяць скачок у сваім развіцці. Сярод іх няма Расіі. Больш таго, яна нават не праглядаецца як буйная эканамічная дзяржава з перадавой тэхналогіяй. Дык які сэнс лезці пад яе крыло? Ці, дакладней, толькі пад яе крыло?**

— Як я вышэй і казаў, мы павінны развіваць супрацоўніцтва з усімі дзяржавамі. Але, улічваючы тое, што энергетычныя і сыравінныя рэсурсы знаходзяцца ў Расіі, мы павінны будаваць сваю палітыку, арыентуючыся на яе рынак.

**— Калі ласка, падрабязней пра гэта.**

— Мы будзем імкнуцца аднавіць эканамічныя сувязі, дзе гэта магчыма, пашыраць у новых галінах. Нам варта нарошчваць экспартны патэнцыял у Расію, каб разлічвацца за газ, нафту. Тэлефонныя перамовы, сустрэчы з Шохіным паказваюць, што Расія прыхільна ставіцца да Беларусі, станоўча ўспрыняла перамены, якія адбыліся ў нас.

**— Якія яшчэ краіны акрамя Расіі Вы бачыце найбольш важнымі для нас у сэнсе эканамічнага супрацоўніцтва?**

— Перш за ўсё краіны СНД. Так склаўся гаспадарчы механізм. Але не забываць і пра Захад.

## Аб ролі інфармацыі

**— Якая, на Ваш погляд, роля сродкаў масавай інфармацыі ў выхадзе з крызісу?**

— Без друку з яго мы не выйдзем.

**— Вас не насцярожвае тая акалічнасць, што ў нас па-ранейшаму не сродкі масавай інфармацыі, а органы прапаганды, што многія выданні наступаюць на незалежнасць дзяржавы, выступаюць за вяртанне ў СССР?**

— Я лічу, кожны мае права выказваць свае думкі, ідэі. І калі яны абгрунтаваныя, нечым падмацаваныя, дык гэта някепска. Але калі пераліваецца з пустога ў парожняе, ахайваецца тая ці іншая пазіцыя, то гэта непрыгожа.

**— У перадавых краінах можна газарыць і пісаць усё, акрамя аднаго — супраць дзяржавы.**

— З часам і мы возьмем такое палажэнне на ўзбраенне.

**— У нас, на жаль, невысокі аўтарытэт улады. Як Вы збіраецеся яго ўзнімаць? І якое месца друку бачыце ў гэтым?**

— Друк павінен дапамагчы перш за ўсё ўзняць працоўны энтузіязм, дысцыпліну. Аўтарытэт да ўлады прыйдзе з часам, як будзе бачна паляпшэнне спраў у эканоміцы. Інакш заваяваць яго нельга.

**— У нас засілле расійскага тэлебачання. Ніхто не супраць яго. І я таксама. Але яно адлюстроўвае далёка не поўную карціну свету, часта скажае яе. Усе перадачы будуюцца ў імя інтарэсаў Расіі. І гэта правільна з іх пункту погляду. Але ж мы практычна пазбаўлены аб'ектыўнай і поўнай інфармацыі аб падзеях і працэсах, якія ідуць у свеце. Гэту абмежаванасць у выніку такога тэлевізійнага і інфармацыйнага выхавання бачым нават у кіраўнікоў высокага рангу, дэпутацкай эліты, што не на карысць нашай дзяржаве. Многія краіны Усходняй Еўропы, Азіі, Афрыкі даўно глядзяць "Сі-эн-эн", праграмы іншых вядучых карпарацый. Ці не пара і нам прарваць інфармацыйную блакаду?**

— Вядома, мне пакуль што цяжка меркаваць аб тонкасцях. Але лічу, што мы павінны атрымліваць інфармацыю і з іншых крыніц. Мне здаецца, што наша Беларускае тэлебачанне не гатова працаваць нават так, як расійскае. Я сам часцей гляджу расійскія праграмы, чым нашы.

**— Беларускае тэлебачанне ствараласа ў асноўным для трансляцыі маскоўскіх праграм з нявялікім аздабленнем мясцовым матэрыялам, а не як буйны тэлевізійны цэнтр, здольны на вялікі творчы пошук.**

— Я лічу, што не перашкодзіла б даць і нашаму гледачу, слухачу магчымасць атрымліваць навіны з буйнейшых і салідных замежных інфармацыйных крыніц. Гэта пайшло б толькі на карысць.

Пытанні задаваў
Іван МАКАЛОВІЧ.

# ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ БАЛТЫІ Ў ВІЛЬНІ

"Беларуская Маладзежная"

**6 ЖНІЎНЯ Ў ВІЛЬНІ АДБЫЎСЯ І З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ БАЛТЫІ.** Гэты дзень стаў сапраўдным святам для людзей, воляю лёсу адарваных ад сваёй Бацькаўшчыны. Адарваных фізічна, але не духоўна. З'езд пачаў сваю працу гімнам "Магутны Божа". Шмат было выступленняў, віншаванняў, пажаданняў. Галоўнай мэтай з'езду, у якім прынялі ўдзел каля 60 дэлегатаў з Эстоніі, Латвіі, Летувы, Беларусі было усталяванне трывалых сувязяў паміж гэтымі краінамі.

Прадстаўніца згуртавання "Бацькаўшчына" зачытала віншавальны ліст прэзідэнта рады згуртавання спадара Гарэцкага. У віншаванні нагадваецца, што менавіта Вільня была цэнтрам беларускай культуры напачатку стагоддзя. Тут выходзілі гэткія газеты, як "Гоман", "Наша ніва", тут была адчынена першая беларуская гімназія, музей беларускай культуры імя Івана Луцкевіча і гэтак далей. Спадар Гарэцкі вызначае, што Вільня дарагая яму таму, што тут прайшоў лёс ягонага бацькі Максіма Гарэцкага. "Наша задача, -- як гаворыцца ў лісце, -- захаваць у памяці нашчадкаў дзеянні беларускага адраджэння". Тут жа гаворыцца аб лёсе Вільні: паўстанне, рэвалюцыі. І напрыканцы свайго віншавання прэзідэнт "Бацькаўшчыны" пажадаў плённае працы і выдатных вынікаў.

Старшыня суполкі Котхла-Ярве распавяла пра тое, што суполка мае нацыянальнае адзенне і святкуе беларускія святы. "Мы можам сказаць, што адчуваем усялякую дапамогу ад мясцовай улады і саміх эстонцаў. Калі мы выконваем нашы песні, эстонцы з вялікай цікавасцю ставяцца да іх і да самое мовы. Аднойчы нашыя мужчыны ў ліпені прынялі вандроўкі па Эстоніі ў пошуках беларусаў. Яны былі апранутыя ў нацыянальнае адзенне і ўу іх быў беларускі сцяг. У адной з вёсак гурт стаміўся і вырашыў адпачыць. Раптам мясцовы жыхар выскачыў з сякерай, але, калі пабачыў сцяг, спытаў, хто мы ёсць. І калі даведаўся, што беларусы, то запрасіў да хаты і напаіў гарбатай."

Што ж, беларусам Котхла-Ярве можна толькі пазайсдросціць. Напрыклад, у Латвіі становішча крыху іншае. Алесь Карповіч, старшыня Таварыства беларускай культуры "Прамень" (Рыга), распавёў, што суполкі "Прамень" і "Світанак" ідуць да адной мэты, але рознымі шляхамі. Адны кажуць, што яны робяць разумней, другія наадварот. "Хочацца, каб гэтых спрэчак не было, -- гаворыць спадар Карповіч, -- але што зробіш? Галоўнае пытанне беларусаў Латвіі -- стварэнне беларускага цэнтру ў рэспубліцы. Але ўлада падтрымлівае ідэю, а грашовай дапамогі няма. У нас няма свайго памяшкання, сход робім, дзе давядзецца. А ў нашым "Промні" 85 чалавек. Шкада, але і ад Беларусі ніякай дапамогі няма. Адно радуе -- у нас ёсць фальклорны калектыў "Надзея", які цудоўна выконвае беларускія песні".

Сакратар управы Беларускага Народнага Фронту спадар Івашкевіч ад усяго БНФ шчыра павіншаваў прысутных. Ён адзначыў, што яму вельмі прыемна бываць у Вільні, таму што ў 1988 годзе тут быў устаноўчы з'езд маладзёжнага фронту, а годам пазней адбыўся і з'езд БНФ. Віктар Івашкевіч нагадаў, што менавіта віленскі край прагаласаваў большасцю галасоў у падтрымку Зянона Пазьняка. Ён паведаміў і аб становішчы на Бацькаўшчыне. На заканчэнне спадар Івашкевіч выказаў спадзяванне, што мы ўсе разам будзем будаваць беларускую дзяржаву.

З прамовай аб шляху Бацькаўшчыны выступіў Анатоль Сабалеўскі: "Галоўная задача беларускай дыяспары -- вылучыцца з рускамоўнага насельніцтва. Няшчасце беларусаў у тым, што напачатку яны далучыліся да рускамоўных, а на самой справе часта не ведалі ніводнай мовы, ніводнай культуры. Шлях да беларускасці -- толькі мова. Гэта будзе яднаць людзей."

Выступіў і старшыня суполкі Коўна Васіль Казлоўскі. "Пачыналі мы праз царкву, і зараз мы змагаемся за тое, каб мець свой час у царкве і праводзіць малебен па-беларуску. Мясцовыя беларусы ў асноўным -- гэта людзі Савецкай арміі. І мы ставім задачы даць ім зразумець, што яны --беларусы".

Прадстаўнік беларускага пасольства ў Вільні Уладзь Шчасны зачытаў віншавальны ліст ад Віктара Ганчара. А сам спадар Шчасны спрабаваў упэўніць прысутных у тым, што "у перыяд распакавання чамаданаў усе ж наш урад думае пра вас і спрабуе дапамагчы".

Прадстаўніца эстонскага радыё з гораду Талін апрэч іншага паведала, што дзяржаўнае радыё пашырыла час вяшчання беларускіх перадач. Выступалі і іншыя прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі. Напрыклад, карэспандэнт газеты "Голас Радзімы" паскардзілася, што вельмі цяжка дасылаць у Балтыю беларускія газеты. Ад сябе дадам, што з Беларусі быў прывезены толькі афіцыйны друк. Відаць, не знайшлося месца апазіцыйным выданням.

Алена Панкратовіч (Радыё Свабода) распавяла пра тое, што ў беларускім рускамоўным друку пішуць толькі пра дыскрымінацыю тутэйшых меншасцяў, і таму яна заклікала ўсіх дасылаць лісты ў Менск пра сапраўднае жыццё беларусаў за мяжой.

А 18 гадзіне на вуліцы Віленская адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі Янку Купалу.

На другі дзень, 7 жніўня, выступалі настаўнікі агульнаадукацыйных школ. Павел Казловіч, напрыклад, адзначыў, што "для нас вялікая праца --гадаваць будучую інтэлігенцыю. І хаця дзеткі не ўсе гавораць па-беларуску, але ўсе яны імкнуцца да гэтага". Шмат казалася і пра неабходнасць падняцця прэстыжнасці адукацыі на роднай мове.

Ну а завершыўся з'езд святочнай вячэрай.

**Андрусь ІВАНАЎСКАС, спецыяльна для "БМ"**

**Цяжка?.. Ой, як цяжка! Але ўсё-ж дапамажэце нашай Газэце і Беларускаму Музэю ў Гайнаўцы!!!**

IN MEMORIAM



Сьвятой † Памяці
Параскева Косарава- Агінская

6-га чэрвеня 1994 году адыйшла на вечны супачынак сьв. Памяці Параскева Косарава-Агінская.

Няхай чужая зямелька будзе Ей пухам.

Вечная Памяць!!! Васіль.

# Бітва пад Оршай — прыклад мужнасці і славы

"Народная Газэта"

**Створаны Арганізацыйны камітэт па сьвяткаванню 480-х угодкаў перамогі беларускага войска пад Оршай.**

**Старшынёй Аргкамітэта абраны прафесар, доктар гістарычных навук, старшыня Згуртавання беларускай шляхты сябра Сойма БНФ А.П.Грыцкевіч.**

**Аргкамітэт распрацаваў праграму сьвяткавання выдатнай даты ў нашай гісторыі. Адбудзецца ўшанаванне памяці беларускіх рыцараў — змагароў за незалежнасць Айчыны на месцы бітвы, у Оршы, Мінску, пройдуць выставы, навуковыя чытанні.**

480 гадоў таму, 8 верасня 1514, года на полі пад Оршай, паміж рэкамі Дняпро і Крапіўна наша беларускае войска на чале з найвышэйшым гетманам Кастусём Астрожскім і ваяводам Юрыем Радзівілам у лютай сечы перамаглі ўтрая большае захопніцкае войска Маскоўскага княства. Гэта бітва трапіла ў аналы сусветнай вайсковай гісторыі як прыклад мужнасці, адвагі і вайсковага ўмельства ў барацьбе за незалежнасць Айчыны. Уся тагачасная Еўропа пільна сачыла за падзеямі на ўсходніх межах Вялікага княства Літоўскага, бо менавіта старадаўняе беларускае гаспадарства воляй лёсу сталася буферам Еўропы на шляху ваяўнічай экспансіі з Усходу — спачатку стэпавікоў, а пасля Маскоўшчыны.

Напярэдадні бітвы ў таемнай дыпламатыі паміж германскім імператарам і маскоўскім уладаром выспявалі планы захопу нашай дзяржавы. Планы гэтыя здзейсніліся пазней, у канцы XVIII стагоддзя, але тады, у часы Астрожскага, Беларусь мела дастаткова адданых патрыётаў, мужных ваяроў, якія за свабоду Бацькаўшчыны ішлі ў бой, не зважаючы на вялікую перавагу ворагаў у зброі. У тыя часы кожны добра ўсведамляў, што нельга пабудаваць асабістае шчасце, дасягнуць асабістага дабрабыту, калі трапіш пад уладу чужынцаў. Шчасця і гармоніі можна дасягнуць толькі на ўласнай вольнай зямлі, маючы асабістую свабоду, якая гарантавана незалежнай дзяржавай. Бітва пад Оршай у пэўнай ступені змяніла ход еўрапейскай гісторыі, яна дазволіла нам яшчэ амаль два стагоддзі развівацца ў нармальным, эвалюцыйным рэчышчы, і ў гэтым яе выключнае значэнне для Беларусі.

Шмат вынішчальных навалаў вогненнай віхурай пранасілася па нашай зямлі. Часта здаралася, што сваёй крывёй беларусы расплачваліся за чужыя інтарэсы. Але мы выжылі! Праз два стагоддзі анексіі Расійскай імперыі, праз дзесяцігоддзі савецкага таталітарызму, праз вынішчальныя войны і страту паловы насельніцтва мы пранеслі ідэю вольнасці, роўнасці і незалежнасці. З Божай ласкі мы аднавілі і ўсталёўваем сваю дзяржаўнасць, і гэта найвялікшая каштоўнасць, якую трэба абараняць. Нам не трэба больш войнаў, нам не трэба чужога, але мы будзем памятаць сваю гісторыю, мы схілім галовы і харугвы ў гонар усіх, хто аддаў свае жыцці за Бацькаўшчыну.

Шануйма 480-я ўгодкі бітвы пад Оршай!

**Арганізацыйны камітэт па сьвяткаванню 480-х угодкаў перамогі беларускага войска пад Оршай.**

## БІЛ КЛІНТАН НАЗНАЧЫЎ НОВАГА ПАСЛА Ў БЕЛАРУСЬ

Відавочна, ужо ў верасні Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі ўзначаліць новы пасол.

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў Пасольстве ЗША ў Мінску, Прэзідэнт Амерыкі Біл Клінтан назначыў на гэту пасаду пана Яловіца. Аднак кандыдатура будучага кіраўніка дыпламатычнага ведамства яшчэ павінна быць зацверджана сенатам ЗША.

**Белінфарм.**

## І БЕЛАРУСАЎ СВЕТ ПАЗНАЕ

Нядаўна незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія» выдала кніжку народнага дэпутата рэспублікі Уладзіміра Новіка «Беларусь. Новая краіна ва Усходняй Еўропе». Гэта адзін з нямногіх гісторыка-публіцыстычных англамоўных твораў, выдадзеных на Беларусі, прызначаны для замежнага чытача. У кнізе прыводзяцца звесткі аб станаўленні беларускай дзяржаўнасці, расказваецца аб новай Канстытуцыі нашай рэспублікі, а таксама даецца ацэнка сучаснага стану культуры, эканомікі і перспектыўныя накірункі міжнароднага супрацоўніцтва.

**Мікалай МАСТОЎСКІ.**




– Дзед, перапішы заяву па-руску,
у мяне па штату перакладчык не належыцца...

Малюнак М. ГІРГЕЛЯ.

# ДЭНАМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА РУБЛЯ

**У мэтах спрашчэння разлікаў і прывядзення ў адпаведнасць вартасці беларускага рубля наміналу разліковага білета Нацыянальнага банка Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь ПАСТАНАВІЛІ:**

**правесці па стану на 20 жніўня 1994 года дэнамінацыю беларускага рубля ў 10 разоў. У сувязі з гэтым усім юрыдычным і фізічным асобам прапанавана забяспечыць па стану на 20 жніўня 1994 года пералік у бок змяншэння ў 10 разоў актываў і пасіваў, усіх відаў цэн і тарыфаў, а таксама паступленняў і даходаў, уключаючы даходы насельніцтва.**

Разлікі за адгружаныя тавары і аказаныя паслугі, плацяжы па якіх не праведзены да дэнамінацыі, будуць ажыццяўляцца пасля дэнамінацыі па новых, зменшаных у 10 разоў, цэнах.

Устаноўлена, што пачынаючы з 20 жніўня разліковыя білеты Нацыянальнага банка абавязковыя да прыёму на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь усімі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі па ўсіх відах плацяжоў, пераводаў, для залічэння на ўклады (дэпазіты) і на разліковыя, бягучыя рахункі па іх наміналу.

Прадпрыемствы і арганізацыі гандлю, транспарту, сувязі, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, бытавога абслугоўвання насельніцтва і іншыя суб'екты гаспадарання, незалежна ад формаў уласнасці, павінны забяспечыць па стану на 20 жніўня прывядзенне розначных цэн і тарыфаў на тавары і паслугі, што аказваюцца насельніцтву, у адпаведнасць з умовамі дэнамінацыі.

Міністэрству гандлю, Белкаапсаюзу, іншым міністэрствам і ведамствам, якія маюць прадпрыемствы гандлю і сферы паслуг, Дэпартаменту цэн Міністэрства эканомікі прапанавана забяспечыць кантроль за правядзеннем дэнамінацыі.

Дзяржкамстату сумесна з Міністэрствам фінансаў і іншымі зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі да 20 жніўня даручана вызначыць парадак адлюстравання ў справаздачнасці ўмоў дэнамінацыі.

Упраўленне арганізацыі і метадалогіі банкаўскага ўліку Нацыянальнага банка і Міністэрства фінансаў павінны правесці неабходную растлумачальную работу аб мэтах і механізме праводзімай дэнамінацыі.

**Белінфарм.**

## З боку лепш відаць?

Напярэдадні вераснёўскай сустрэчы сваіх прадстаўнікоў з кіраўнікамі нашай краіны Міжнародны валютны фонд прадставіў Кабінету міністраў Беларусі каментарый наконт заявы ўрада аб эканамічнай палітыцы.

У ім адзначаецца, што заява, пераглежданая новым саставам кабінета, не мае вялікіх адрозненняў ад папярэдняй версіі дакумента, падрыхтаванага былым саставам Савета Міністраў. Таму большасць заўваг, якія Фонд зрабіў раней, сёння застаецца ў сіле.

Міжнародны валютны фонд па-ранейшаму настойвае на тым, каб урад рэспублікі прыняў усе меры для зніжэння інфляцыі да ўзроўню менш чым 10 працэнтаў да канца 1994 года і максімум да 1 працэнта — да канца года наступнага. Адначасова ў каментары выказваецца падтрымка ў адносінах да аб'яўлення беларускага рубля паўнацэннай нацыянальнай валютай.

Разам з тым спецыялісты МВФ зрабілі заўвагу з прычыны адсутнасці дакладных планаў па змяненню тарыфаў на жыллё, камунальныя паслугі і транспарт. Яны, на думку эканамістаў, павінны быць распрацаваны такім чынам, каб значна павысіць пакрыццё сабекошту ўжо ў гэтым годзе, а да 1995 года — цалкам адмовіцца ад датавання.

Што датычыць крэдытаў для аграрнага сектара рэспублікі, то МВФ надзвычай занепакоены намерам урада адкрыць ільготны крэдыт у памеры 5 трыльёнаў рублёў для сельскай гаспадаркі. Чым менш жорсткімі ўмовамі гэты крэдыт будзе агавораны, тым больш інфляцыйным ён стане, нават калі будзе кароткатэрміновым і сезонным, перакананы эксперты Фонду. На іх думку, любыя крэдыты сельскай гаспадарцы павінны прадастаўляцца на рынкавых умовах, з цвёрдымі гарантыямі іх мэтанакіраванага выкарыстання і вяртання.

**Белінфарм.**

## ГЕНЕРАЛЫ І ПАЛКОЎНІКІ. КОЛЬКІ ІХ?

У нашых Узброеных Сілах ідзе скарачэнне. Да студзеня 1995 г. яно павінна скончыцца, і наша войска будзе налічваць 90 тыс. чалавек. Ці закранула скарачэнне генералаў і старшы афіцэрскі састаў? Начальнік упраўлення кадраў Міністэрства абароны генерал-маёр Аляксандр Захарэнка паведаміў, што сёння ў войску Беларусі служаць 57 генералаў і звыш 1.500 палкоўнікаў. Гэта шмат. «Таму ў бліжэйшыя 5-6 дзён будуць звольнены 5-6 генералаў», — адзначыў А. Захарэнка. А наогул Міністэрства абароны працуе над тым, каб колькасць генералаў скараціць на 30 працэнтаў. Закране скарачэнне і палкоўнікаў.

# ЗАПРАШЭННЕ Ў МУЗЕЙ

*"НІВА"*

Сардэчна дзякуем рэдакцыі за рубрыку „Музейны фонд", у якой „Ніва", пачынаючы з 28.Х.1984 года, пастаянна друкуе спіс усіх ахвяравальнікаў грошай на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы. Дзякуючы ёй папулярызуецца пабудова нашага Музея і мы знаходзім усё новых ахвяравальнікаў у Польшчы і за мяжою. На сённяшні дзень у ліку ахвяравальнікаў апынуліся ўжо 4 326 чалавек. Усім сардэчна дзякуем, асабліва „Ніве". Мы „Ніву" нават пахвалілі ў амерыканскім часопісе „Беларускі Дайджэст" (н-р 6 ад ліпеня 1994 г.), які надрукаваў наш артыкул аб тых, хто будуе Беларускі музей у Гайнаўцы. Для нас гэта вельмі важная справа, бо наш Музей будуецца ў значнай ступені на грамадскіх пачатках і кожны ахвяравальнік у нас лічыцца. Мы вядзем ганаровую хроніку Музея, у якую запісваем усіх ахвяравальнікаў. Такім чынам хочам увекавечыць кожнага, хто прычыніўся да пабудовы гайнаўскага Музея, падкрэсліць, што цаглінка кожнага ахвяравальніка была або будзе ўмураваная ў прыгожы будынак нашага Музея. А калі хтосьці нам не верыць, што будынак Музея вялікі і прыгожы, дык запрашаем да нас, у Гайнаўку! У хроніцы маем спецыяльныя старонкі водгукаў нашых гасцей і наведвальнікаў. Запісаў у ёй ужо многа. Не хапае нам толькі паметак прадстаўнікоў „Нівы" і таму сардэчна запрашаем журналістаў і працаўнікоў рэдакцыі ў Гайнаўку, няхай і яны пададуць свой голас у хроніцы Музея ды і далей няхай актыўна дапамагаюць нам рабіць гэту вялікую беларускую справу.

**ЮЛЬЯН КАЗБЯРУК**

*ДАЛЕЙШЫЯ ахвяры на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына:*

| | | |
|---|---|---|
| 10. | Нікадэм Жызьнеўскі | $30 – |
| 11. | Мікола Кучура | $20 – |
| 12. | Янка Наваградзкі | $5 – |
| 13. | Н. Мароз | $10 – |
| 14. | Валя Мазуро | $5 – |
| 15. | Ірэна Пануцэвіч | $10 – |
| 16. | Людвіка Беленіс | $10 – |
| 17. | Міхась Махнач | $20 – |
| 18. | Ванда Махнач | $20 – |
| 19. | А. Чарнэцкая | $20 – |
| 20. | В. Багдан | $5 – |
| 21. | Др. Вітаўт і Вера Рамук | $100 – |
| 22. | Гэндрык Сянкевіч | $20 – |
| 23. | Др. Анатоль Санковіч | $50 – |
| | Разам: | $325 – |
| | Папярэднія ахвяры: | $410 – |
| | Разам: | $735 – |

*Дарагі Чытач!!!*

Зрабі ўсё магчымае, каб і Тваё прозьвішча зьявілася на чарговай лісьце ахвярадаўцаў на Музэй!

## У АМЕРЫЦЫ ЛІЧАЦЬ ГРОШЫ

Мінімальная зарплата ў Беларусі -- 10 тысяч рублёў, што па цяперашняму курсу менш за чатыры долары ЗША. А якая «бухгалтэрыя» ў Амерыцы?

Прафесар Чыкагскага універсітэта Васіль Моркусь (у мінулым наш суайчыннік) у гутарцы з карэспандэнтам РІДа сказаў, што яго прафесарскі заробак складае крыху больш за 50 тысяч долараў у год. Амаль трэць гэтай сумы ідзе на падаткі. Вельмі дарагое (нават па іх мерках) жыллё. Напрыклад, за месяц пражывання ў двухпакаёвай кватэры даводзіцца плаціць ад 300 да 600 долараў, і больш (у залежнасці ад камфортнасці, прэстыжнасці раёна).

Нятаннае харчаванне, паслугі. Сярэдняя зарплата ў ЗША — паўтары тысячы долараў у месяц, пражытачны мінімум складае каля васьмісот.

## А.ЛУКАШЭНКА І Л.КУЧМА ДАМОВІЛІСЯ АБ СУСТРЭЧЫ

11 жніўня ў другой палове дня адбылася тэлефонная размова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з Прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмай. Размова датычылася, у асноўным, эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх краін. Бакі дамовіліся аб правядзенні рабочай сустрэчы на вышэйшым узроўні, тэрміны якой будуць устаноўлены па дыпламатычных каналах.

**Белінфарм.**

Ад Рэдакцыі:

Ветліва паведамляецца, што выдавецтва ня мае першых № нашае газэты. Увесь тыраж вычарпаны.